


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

6 ЛІСТАПАДА 1998 Г. № 45/3973 КОШТ 4 000 РУБ.

## ЦІ ПАТРЭБНА "ГРАМАДЗЯНАМ СВЕТУ" БАЦЬКАЎШЧЫНА?

**Яўген РАГІН: "У грамадскім транспарце мы даўно не абмяркоўваем учарашнія газеты (дакладна вядома, што будзе надрукавана нават у заўтрашніх), не скардзімся ўжо на недасягальнасць долара. Мы маўчым, галасна ўспамінаючы хіба толькі неўміручую "Санта-Барбару" — амаль успрымаемы дотыкам, а таму такі салодкі для нас міф. Мы маўчым, бо па вушы ў палоне савецкасці — пасіўнай і абыякавай..."**

**5**

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА БЕЛАРУСКАЕ САМАЕДСТВА

**Меркаванні пра хрэстаматыю "Родная літаратура для 11 класа" і падручнік "Родная літаратура для 11 класа".**

**6—7, 12**

## НОВЫЯ ВЕРШЫ

**Віктара ГАРДЗЕЯ і Алега САЛТУКА**

**8—9**

## ПЛЯЖ

**Старонкі з рамана Юрыя СТАНКЕВІЧА**

**9**

## КАЛІ ТЫ — ЦАР...

**Тацццяна АНДРЭЙЧАНКА: "Палітычныя сімпатыі ці антыпатыі паэтаў ці філосафаў не з'яўляюцца вырашальнымі для ацэнкі іхняе творчасці, бо палітычныя погляды — гэта толькі нейкая грань чалавечай асобы, якая ўвогуле можа і не знайсці свайго адлюстравання ў творчасці..."**

**14—15**

## БУДЗЬМА РАЗАМ!

Шаноўныя чытачы! Ужо трэці тыдзень, як ідзе падпіска на наш штотыднёвік на першае паўгоддзе 1999 года. Вы, відаць, ужо змаглі параўнаць кошты падпісак на выданні і, відаць, вызначылі для сябе, што будзеце выпісваць. Спадзяёмся, што Вы, нашы даўнія чытачы, не адцураліся ад "ЛіМа" і, нягледзячы ні на што, застаняцеся і надалей з намі. Калі не можаце падпісацца на "ЛіМ" адразу на паўгоддзе, падпішыцеся на квартал, а то і на месяц. Кошт "ЛіМа" на адзін месяц — 50 тысяч рублёў, на квартал — 150 тысяч і на паўгоддзе — 300 тысяч.

**Будзьма разам!**

**Наш індэкс — 63856.**



*Калісьці гэта быў палац Тышкевічаў у Лагойску.* Фота А. ПРУПАСА

*На рэштках палаца апалае лісце...*
*Як рэшткі палаца — і наша жыццё...*
*Мы помнім яшчэ, што было Тут калісьці,*
*Але мы таксама ляцім, як лісцё,*

*Праз дзверы, якія адчынены ветру,*
*Губляючы Мову, губляючы Веру,*
*На рэштках палаца,*
*на рэштках святынь...*



# КОЛА ДЗЁН

***Першы лістападаўскі тыдзень яшчэ зусім нядаўна пачынаўся афіцыйнымі, дзяржаўнымі Дзядамі. Сёлета ўжо таких Дзядоў не было, хоць гэта й не перашкодзіла людзям ушанаваць памяць памерлых і загубленых. Затое канец тыдня сёлета зноў вянчае "чырвоны дзень календара" — дзень Кастрычніцкай (з сарамлівым апушчэннем слова "сацыялістычнай") рэвалюцыі... Тыдзень жа пазначыўся найперш даўжэзнымі, акурат колішнімі савецкімі, чэргамі на славутай мінскай Камароўцы ля машын з яйкамі, акцыямі пратэсту супраць галечы незалежных прафсаюзаў, шматгадзіннымі трансляцыямі настальгічных канцэртаў "Залатога шлягера" з Магілёва, урачыстым і бадай па-купецку шыкоўным шоу з нагоды закрыцця футбольнага сезона ці нейкай іншай гістарычнай падзеі і, вядома ж, пасяджэннем парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі з удзелам... дэлегацыі скупшчыны Сербіі.***

***Пасяджэнне — слова сур'ёзнае, важкае, аднак жа сапраўднай работы ў Яраслаўлі, мяркуючы па ўсім, было няшмат. Больш было ўрачыстай эйфарыі, са спяваннем гімнаў, у тым ліку і былога савецкага. Больш было галасу пра яднанне. Славянскае, вядома. Яно было лейтматывам усёй імпрэзы. Маўляў, даеш славянскае яднанне! Як мага хутчэйшае і як мага паўнейшае! Аж да поўнага зліцця — як у любоўным экстазе. Асабліва ў гэтым "усердствовали" нашы "палатнікі", выбачайце — парламентарыі. Яны дэманстравалі такі адчайны, проста галавакружны імпэт да "единения", што, гледзячы на іх, чамусьці міжволі прыходзілі на памяць словы з нашага народнага "шлягера" пра дзеўку, якая "замуж захацела, ледзь уся не абамлела"...***

## ПАЗІЦЫЯ ТЫДНЯ

Мінск наведала дэлегацыя Сусветнага банка на чале з віцэ-прэзідэнтам Іяханесам Лінам. Пасля сустрэч і перамоў з кіраўніком Адміністрацыі Прэзідэнта РБ М. Мясніковічам і кіраўніком Нацбанка П. Пракаповічам госць заявіў:

— Беларусь павінна стаць прывабнай для інвестараў за кошт лібералізацыі абменнага курса, меншага рэгулявання цэн, паскарэння прыватызацыі, прыняцця законаў, якія б садзейнічалі развіццю бізнесу... Але ж якраз гэта ў нас і не робіцца, альбо робіцца вельмі марудна ці не ў поўнай меры...

## ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

Не ўпершыню з'яўляецца ў нас такая намінацыя — інфляцыя няўхільна расце і адпаведна няўхільна павышаюцца цэны. Гэты тыдзень прынёс чарговую падвышку цэн на паслугі электра- і паштовай сувязі. Паставіць тэлефон, пазваніць у суседні горад і за мяжу, паслаць паштоўку, ліст ці тэлеграму з 3 лістапада каштуе значна даражэй. Скажам, за хвіліну задушэўнай гаворкі па тэлефоне з сяброўкай ці сябрам трэба будзе плаціць зараз амаль сто рублёў — 95. Як кажуць, куды ні кінь, усюды клін...

## РАБУНАК ТЫДНЯ

У ноч з суботы на нядзелю была абрабавана рэдакцыя газеты "Навіны". Рабаўнікі былі адмысловыя — не пакваліліся ні на сейф, ні наваt на рэдактарскі дыпламат. Яны адно скралі начынне рэдакцыйных камп'ютэраў, так званую памяць машын, гэта значыць усю рэдакцыйную інфармацыю, якая назапашвалася восем гадоў. Міжволі ўзнікаюць пытанні: каму гэта трэба было і дзеля чаго? Рэдакцыя "Навін" лічыць, што злачынства магло быць учынена якой-небудзь са спецслужбаў РБ...

## МЕСЦА ТЫДНЯ

Друк паведамляе пра даклад ААН, прысвечаны сацыяльнаму развіццю краін свету за гэты год. У дакладзе адлюстраваны дзесяткі, сотні паказчыкаў, якія характарызуюць узровень жыцця народаў свету, вызначаны індэкс сацыяльнага развіцця, паводле якога краіны займаюць тое ці іншае месца. Наша краіна згодна з гэтым індэксам займае 68 месца ў свеце. Можам суцешыцца, што мы — не апошнія, што нават Расія займае месца пасля нас — 72, што нейкая там Сьера-Леоне — ажно на 174 месцы. Але суцяшэнне не надта вялікае, бо нават у той жа Сьера-Леоне даход на душу насельніцтва з улікам рэальных цэн складае 625 долараў, а ў нас — усяго 498...

## УЗРОСТ ТЫДНЯ

Нядаўна ў Мінску прайшла навукова-практычная канферэнцыя "Традыцыйная духоўнасць і цвярозасць — аснова здаровага ладу жыцця народа". Выступаючы там, намеснік дырэктара НДІ фізкультуры і спорту У. Цімашэнкаў прывёў такі факт: з 1500 чалавек ад 8 да 80 гадоў, якія былі абследаваны ў інстытуце, 60 працэнтаў мелі біялагічны ўзрост, які перавышае іх так званы пашпартны, гэта значыць сапраўдны. Факт, вядома ж, сумны. Ён азначае, што грамадства наша старэе яшчэ больш, чым мы меркавалі дагэтуль, у тым ліку і за кошт гіпадынаміі, якую называюць "хваробай XX стагоддзя".

## ДАПАМОГІ ТЫДНЯ

Устаноўлены новыя памеры дапамог і даплат, прадугледжаных законам аб сацыяльнай абароне грамадзян, што пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы. Зараз яны будуць у памерах ад 39 тысяч рублёў да 385 тысяч. Краіна наша, вядома, бедная, аднак жа ўсё адно памеры дапамог і даплат надзвычай мізэрныя. На іх можна купіць ад 3-4 буханак хлеба да 1-2 кілаграмаў нялепшай кілбасы. Але ж нашы людзі непераборлівыя, яны шчасна кажуць: "І на тым дзякуй..."

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Міністэрства гандлю падвяло вынікі працы за 9 месяцаў сёлетняга года. Паказчыкі сведчаць пра поспехі ўнутранага рынку краіны: за 9 месяцаў прамысловасцю пастаўлена яму ад гадавых аб'ёмаў 92 працэнты фарфоравага посуду, панчошна-шкарпэткавых вырабаў — 95 працэнтаў, скуранога абутку — 87, тэлевізараў — ажно 125 працэнтаў, мэблі — 119, стальнога эмаліраванага посуду — 132 працэнты і г.д. Лічбы ўражваюць, бо, звычайна, яны сведчаць аб несумненным росце дабрабыту народа. На жаль, нашы людзі тут бадай ні пры чым: большасць гэтых тавараў былі куплены тут, але сплаўлены туды — за мяжу, найперш у Расію...

## МАЛІТВА ТЫДНЯ

"Народная воля" ў нумары за 4 лістапада надрукавала ліст вучаніцы 9 класа Марыі Заяц з Мінска. Ліст называецца "Малітва за беларускую мову". У ёй, у прыватнасці, гаворыцца: "Прашу Цябе, святы Уладыка, пашлі нашаму народу еднасць, згоду і паразуменне ў адносінах да сваёй Радзімы — Беларусі. Ухвалі, Ойча, працу настаўнікаў, пісьменнікаў, вучоных і ўсіх іншых патрыётаў-беларусаў на карысць Адраджэння мовы нашай беларускай. О ўсемагутны Божа, зрабі так, каб мы, сыны Беларусі, ніколі не пакідалі нашай беларускай мовы, а наадварот, усім сэрцам любілі яе!.. Пачуй, Божа, малітву маю і зрабі тое, аб чым прашу! Амінь".

Каментаваць малітву, тым больш дзіцячую, не выпадае. Хіба адно варта сказаць: калі ёсць у нас такія дзеці, дык ёсць у нас і будучыня...




# Няўлоўная птушка духоўнасці

***"Жанчына і духоўнасць. Маральныя арыенціры на парозе XXI стагоддзя" — так называўся "круглы стол", праведзены Жаночым адукацыйна-кансультацыйным цэнтрам пры ІВВ. Прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, сферы адукацыі і культуры, псіхолагі і сацыёлагі паспрабавалі азначыць гэтае паняцце — добра-такі зацяганае ў апошнія гады — у кантэксце становішча жанчыны ў нашым грамадстве.***

Што ж такое духоўнасць і як яе ратаваць ва ўмовах ідэалагічнага і эканамічнага крызісу, разбурэння традыцыйных каштоўнасцей, адчужэння дзяцей ад бацькоў? Доктар філасофскіх навук Вадзім Салееў, зрабіўшы кароткі экскурс у гісторыю, зазначыў, што сёння гэтае паняцце шырэй рэлігійнага і этычнага бачання. Яно, на думку вучонага, уключае веру (як традыцыю), комплекс ведаў, маральныя ўстаноўкі і эстэтычныя погляды. Чалавек — істота не толькі біялагічная і сацыяльная, а яшчэ і духоўная, і пра гэтую трэцюю іпастась забываць нельга.

XXI стагоддзе будзе стагоддзем жанчыны, сказала прарэктар Жаночага інстытута "Энвіла" Акцябрына Рашчынская. СНД — гэта краіны разгубленых мужчын, якія згубілі арыенціры і не ведаюць, куды рухацца. Хопіць жанчынам наракаць на сваю долю, час дзейнічаць практычна. Тыя, чый творчы патэнцыял як лідэраў не запатрабаваны, сёння ідуць у дробны і сярэдні бізнес. Даследаванні паказалі, што чым вышэй грамадскі статус жанчыны, тым вастрэй яна адчувае комплекс няпоўнавартасці. Адзінства і салідарнасць жаночых арганізацый — вось тое, што можа змяніць сітуацыю.

Старэйшына беларускай эстэтычнай думкі, член-карэспандэнт Міжнароднай АН "Еўразія" Мікалай Крукоўскі заклікаў шукаць апору ў нацыянальных традыцыях і каштоўнасцях. Праўда, у выпадку, калі сама дзяржава адпрэчвае нацыянальнае, такая апора можа стаць фактарам унутранага разладу і стрэсу, што, вядома ж, не спрыяе грамадскай стабільнасці.

З цікавасцю былі выслуханы выступленні кандыдата псіхалагічных навук Надзеі Цыркун і пастара лютэранскай абшчыны г. Мінска Вольгі Штокман. Апошняя расказала пра сваё духоўнае станаўленне і прывяла такі маловядомы факт: у канцы XVII — пачатку XVIII ст. наведванне царквы ў Германіі было абавязковым, і хто ўхіляўся ад набажэнства, караліся штрафамі.

"Мы разглядаем наша жыццё з пункту гледжання соцыуму, а соцыум несправядлівы да жанчыны", — падкрэсліла псіхолаг Наталля Маскалёва. Зрэшты, зараз і ў мужай паловы хапае праблем, сярод іх ранняя смяротнасць, алкагалізм, бессямейнасць, беспрацоўе і ўсе аднолькава прыніжаныя і не знаходзяць рэалізацыі.

На паседжанні "круглага стала" падымаліся пытанні партнёрства, састарэласці гендэрных роляў, жывучасці стэрэатыпаў. Прагучаў прыклад скандынаўскіх краін, дзе мае месца іншая канцэпцыя развіцця і тое, што называюць парытэтнай дэмакратыяй. "Наша задача — не змагацца з мужчынамі, а дапамагаць ім", — такой была выснова дырэктара цэнтра, лідэра хрысціянска-дэмакратычнага руху Людмілы Пецінай. Яна канстатавала, што гаворка на гэты раз аказалася няпростай і нават хваравітай. Мабыць, яна мела на ўвазе ментальную агрэсію, настойлівае "яканне" асобных удзельнікаў, а падчас і неразуменне прадмета гаворкі. Стракаты спектр пазіцый, меркаванняў і ўзроўняў як бы выявіў такі самы разброд у сучасным беларускім грамадстве. Так што "духоўнасць" як была няўлоўнай птушкай, так і засталася...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

# Для таленавітай моладзі

Распараджэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі зацверджана РАШЭННЕ савета спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі аб прызначэнні стыпендый і аказанні разавай матэрыяльнай дапамогі таленавітым навучэнцам і студэнтам, якія маюць творчыя дасягненні, аб выдзяленні сродкаў на выплату гэтых стыпендый і аказанне разавай дапамогі, на выданне каталога III Міжнароднага дзіцячага пленэру імя І. Е. Рэпіна, на выданне каталога Рэспубліканскай маладзёжнай выставы "Час. Прастора. Асоба", на правядзенне майстар-класа для студэнтаў Беларускай акадэміі мастацтваў (г. Санкт-Пецярбург), на выплату прэмій узорнаму дзіцячаму фальклорнаму ансамблю "Дударыкі", камернаму аркестру і хору хлопчыкаў Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, на выплату прызавога фонду Рэспубліканскага конкурсу па стварэнні фірменнага стылю спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, у якім гаворыцца:

**1. Прызначыць стыпендыі спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі адораным навучэнцам і студэнтам, якія маюць творчыя дасягненні:**

*па першай узроставай катэгорыі (да 16 гадоў) у памеры 6 млн. рублёў кожная:*

**Баранавай** Вользе — вучаніцы 4 класа дзіцячай мастацкай школы г. Клімавічы;

**Данчанку** Сяргею — вучню 5 класа дзіцячай музычнай школы N 1 г. Гомеля;

**Захарэвічу** Аляксандру — вучню 5 класа спецыялізаванай дзіцячай музычнай школы N 4 г. Магілёва;

**Кавалевічу** Мікалаю — вучню 6 класа дзіцячай музычнай школы г. Лунінца;

**Кульгуну** Аляксандру — вучню 7 класа дзіцячай музычнай школы г. Лунінца;

**Парахневіч** Вользе — вучаніцы 5 класа дзіцячай мастацкай школы г. Слуцка;

**Пятрашынай** Марыі — вучаніцы 9 класа гімназіі N 8 г. Мінска;

**Сіўчанку** Ігару — вучню 6 класа дзіцячай музычнай школы N 1 г. Мазыра;

**Сінькевічу** Уладзіміру — навучэнцу 7 класа Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі;

**Фяцісавай** Маргарыце — вучаніцы 6 класа дзіцячай музычнай школы N 3 г. Гомеля;

**Чаркасу** Аляксандру — вучню 5 класа дзіцячай музычнай школы N 1 г. Пінска;

**Чарнякову** Паўлу — вучню 6 класа дзіцячай музычнай школы г. Хойнікі;

*па другой узроставай катэгорыі (ад 16 да 20 гадоў) у памеры 7 млн. рублёў кожная:*

**Азончык** Дар'і — навучэнцы 4 курса Мінскага музычнага вучылішча імя М. І. Глінкі;

**Басалыгу** Філіпу — навучэнцу 2 курса Мінскага мастацкага вучылішча імя А. К. Глебава пры Беларускай акадэміі мастацтваў;

**Барысюк** Алене — навучэнцы 3 курса Мінскага музычнага вучылішча імя М. І. Глінкі;

**Дзяменцьевай** Тамары — навучэнцы 3 курса Мінскага мастацкага вучылішча імя А. К. Глебава пры Беларускай акадэміі мастацтваў;

**Капусце** Аляксандру — студэнту 1 курса Расійскай акадэміі музыкі г. Масквы;

**Крымеру** Расціславу — студэнту 1 курса Музычнай акадэміі г. Хельсінкі (Фінляндыя);

**Кучко** Марыне — навучэнцы 3 курса Мінскага музычнага вучылішча імя М. І. Глінкі;

**Лебедзь** Наталлі — вучаніцы 3 класа дзіцячай мастацкай школы г. Слуцка;

**Лосік** Юліі — студэнтцы 2 курса Беларускага універсітэта культуры;

**Стахіевічу** Віталію — навучэнцу 12 класа Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі;

**Тхаровай** Таццяне — студэнтцы 1 курса Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі імя П. І. Чайкоўскага;

*па трэцяй узроставай катэгорыі (ад 20 да 25 гадоў) у памеры 8 млн. рублёў кожная:*

**Глазоўскай** Кацярыне — студэнтцы 5 курса Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі;

**Кісценю** Віктару — студэнту 4 курса Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі;

**Кандрусевічу** Уладзіміру — студэнту 6 курса Беларускай акадэміі мастацтваў;

**Лузан** Вользе — студэнтцы 3 курса Беларускай акадэміі мастацтваў;

**Аўчыннікавай** Елізавеце — навучэнцы 4 курса Гомельскага мастацкага вучылішча;

**2. Аказаць разавую матэрыяльную дапамогу ў памеры 4 млн. рублёў кожная адораным навучэнцам і студэнтам, якія маюць творчыя дасягненні:**

**Багуновай** Анастасіі — вучаніцы 6 класа дзіцячай школы мастацтваў г. Магілёва;

**Бацяноўскаму** Афанасію — навучэнцу 6 класа Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі;

**Карповічу** Аляксандру — вучню 6 класа дзіцячай школы мастацтваў N 2 г. Мазыра;

**Какаўліну** Івану — вучню 6 класа дзіцячай музычнай школы N 2 г. Гомеля;

**Караткевічу** Эдгару — вучню 7 класа дзіцячай школы мастацтваў N 5 г. Гомеля;

**Маісеевай** Аляксандры — вучаніцы 7 класа дзіцячай музычнай школы N 5 г. Магілёва;

**Маісеевай** Дар'і — вучаніцы 5 класа дзіцячай музычнай школы N 5 г. Магілёва;

**Прэабражэнскай** Ларысе — вучаніцы 6 класа дзіцячай школы мастацтваў г. Шклова;

**Рачковай** Кацярыне — навучэнцы 4 курса Гомельскага каледжа мастацтваў імя М. Ф. Сакалоўскага;

**Сячынавай** Вользе — навучэнцы 3 курса Гомельскага каледжа мастацтваў імя М. Ф. Сакалоўскага.

**3.** Выдзеліць 1 млрд. 73 млн. рублёў з сродкаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, у тым ліку на выплату стыпендый і аказанне разавай матэрыяльнай дапамогі адораным навучэнцам і студэнтам, якія маюць творчыя дасягненні, — 189 млн. рублёў і 40 млн. рублёў адпаведна; на выданне каталога III Міжнароднага дзіцячага пленэру імя І. Е. Рэпіна — 80 млн. рублёў; на выданне каталога Рэспубліканскай маладзёжнай выставы "Час. Прастора. Асоба" — 250 млн. рублёў; на правядзенне майстар-класа для студэнтаў Беларускай акадэміі мастацтваў (г. Санкт-Пецярбург) — 200млн. рублёў; на выплату прэмій узорнаму дзіцячаму фальклорнаму ансамблю "Дударыкі", камернаму аркестру і хору хлопчыкаў Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі — па 100 млн. рублёў кожная; на выплату прызавога фонду Рэспубліканскага конкурсу па стварэнні фірменнага стылю спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі — 14 млн. рублёў.

ПАДЗЕЯ

# "Дзякуй за чыстае жыццё!.."

Штосьці неверагоднае дзеелася ў Саюзе кампазітараў! Многія зацікаўленыя асобы літаральна не знаходзілі сабе месца нават ля дзвярэй перапоўненай залы. Ці то арганізатары перастараліся, ці то музычнае студэнцтва згаладалася па вялікіх тэарэтычных імпрэзах, але гэта быў... "больш чым аншлаг".

**А нагода была не сенсацыйная, хаця — салідная: міжнародная навуковая канферэнцыя "Цывілізацыя і культура: праблема актуальнасці нацыянальнага фактару на рубяжы трэцяга тысячагоддзя (музычны аспект)". Праўда, слухаючы першага прамоўцу, хтосьці дазволіў сабе крамольную думку. Маўляў, глянуўшы ў расчуленыя вочы правінцыялак, тытулаваны госць прапанаваў замест абмежаванага рэгламентам навуковага даклада — бліскучую і бясконцую моўную размінку, уводную адвольную гутарку на тэму канферэнцыі... Ды, на шчасце, і з бруістай вады маскоўскіх фантанаў можна здабыць соль. Слухайце — і пачуеце.**

**І пачулі мы слушныя меркаванні, абгрунтаваныя філасофскім досведам чалавецтва, пра парадаксальныя стасункі культуры і цывілізацыі. Пра тое, як ва ўмовах рэзкага ўзрастання ролі цывілізацыйных памкненняў у XX ст. памкненні культурныя ўтвараюць выразную апазіцыйную плынь. Як на фоне імкнення да універсалізацыі прагматычных аспектаў жыцця вылучаецца імкненне да індывідуалізацыі, кшталтавання свайго "я" — і ў выніку гэта стварае культуру.**

**Мы пачулі развагі пра маналітнасць, глабальнасць, пазанацыянальнасць, "паталагічную дэмакратычнасць" цывілізацыі — і заснаваную на адметных "няроўнасцях", а таму заўсёдную шматаблічную арыстакратычнасць культуры. Пра тое, што XX ст. дало чалавецтву страшныя ўрокі выдаткаў цывілізацыі, навучыўшы ствараць гіганцкія таталітарныя аб'яданнні, якія спараджаюць сваю культуру і не могуць змірыцца з культурай геннай. Масавая культура (тое, чаго чалавецтва не ведала ў ранейшых цывілізацыях) адварочвае людскую свядомасць ад глыбіняў, але выступае як вялікая кансалідуючая сіла, што спрыяе зручнасці жыцця ў грамадстве. Урэшце цывілізацыя пачынае ўплываць на генную культуру, але ў сваю чаргу ейны плодны ўплыў зрэдчас адчуваецца ў лепшых узорах культуры масавай...**

Як вядома нашым чытачам, тая канферэнцыя была складнікам імпрэзы, наладжанай у Мінску з нагоды юбілею патрыярха беларускай музычнай культуры Анатоля Багатырова. Яе актыўныя арганізаткі ды ўдзельніцы, кандыдаты мастацтвазнаўства Р. Сергіенка ды В. Савіцкая абяцалі падрыхтаваць на аснове матэрыялаў двухдзённага навуковага форуму публікацыю для "ЛіМа". Будзем чакаць. Пакуль жа — колькі слоў пра саму віншавальную цырымонію ў гонар "музычнага магіканіна" — Анатоля Васільевіча Багатырова.



Зразумела, важнай падзеяй сталася правядзенне двух яго аўтарскіх канцэртаў, падрыхтаваных дырыжорамі Г. Праватаравым, М. Казінцом, інструменталістамі ды спевакамі: сімфанічны вечар і праграма з камерных твораў — жывое і праўдзівае люстэрка творчага аблічча юбіляра. Муза А. Багатырова завітала і на ўрачыстую сустрэчу ў Беларускай акадэміі музыкі. Тут, як водзіцца, выступалі прадстаўнікі самых розных устаноў і калектываў, Анатолю Васільевічу казалі добрыя словы, дарылі кветкі, святочныя пакункі. Міністр культуры А. Сасноўскі зачытаў віншаванне ад прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі; рэктар БАМ М. Казінец пазнаёміў з тэкстамі шматлікіх тэлеграм. Былі музычныя сюрпрызы: фартэпіянныя творы А. Багатырова гучалі ў выкананні першага прарэктара акадэміі В. Яканюка, прафесара І. Алоўнікава; з балкона, з-пад скляпенняў залы, грымнула "Многая лета" ад будучых дырыжораў-харавікоў пад кіраўніцтвам маэстра В. Роўды. Выступалі студэнты, у рэпертуары якіх — музыка А. Багатырова. А якое кранальнае было віншаванне піцерскай музыказнаўцы С. Хентавай, адной з нямногіх, каму дазволена звяртацца да юбіляра па імені, бо гадаваліся яны разам, на ўжо не вядомых маладзейшым пакаленням вуліцах колішняга Віцебска 20-х. Сяброўка дзяцінства падаравала Анатолю Васільевічу напісаны ёю двухтомнік пра "творцу з беларускімі каранямі" Д. Шастаковіча, з якім нашага кампазітара звязвала дружба...

Вітаючы героя ўрачыстасці, хтосьці шчыра выгукнуў: "Дзякуй Вам за Ваша чыстае сумленнае жыццё!" А хтосьці падкрэсліў, што ўшанаванне такой легендарнай самабытнай асобы ёсць сапраўднае дзяржаўнае свята. Праўда, стаўленне ў друку ды ў эфіры да гэтай падзеі нацыянальнай культуры было, на жаль, досыць сціплае. Напэўна, таму, што ў той дзень на ўзроўні дзяржаўнага свята адзначалі вядомую дату з палітычнай гісторыі. Ненаўмыснае сутыкненне 85-годдзя А. Багатырова і 80-годдзя ВЛКСМ прымусіла згадаць пачатак навуковай канферэнцыі ды паразважаць пра дары культуры і выдаткі цывілізацыі...

Добрага здароўя вам, Анатоль Васільевіч! Вы — легендарная старонка нашай культуры, вы — адметнае творчае "я", мастацкая традыцыя, выток сучаснай беларускай кампазітарскай школы. Вы — гэта вашы музычныя дзеці, унукі ды праўнукі, за якімі — будучыня нашага мастацтва. Цывілізацыі нараджаюцца, квітнеюць, знікаюць... Мастацтва — вечнае.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымку: народнага артыста Беларусі, лаўрэата дзяржаўных прэмій, прафесара, акадэміка Анатоля Багатырова віншуюць калегі-кампазітары Л. Мурашка і У. Дарохін.*

*Фота А. ПРУПАСА*

АБСЯГІ

*ВІЦЕБСК...*

## Памяці рэпрэсаванага паэта

Напярэдадні Дзядоў у Літаратурным музеі Віцебска адбылася вечарына, прысвечаная памяці паэта Тодара Кляшторнага. Дзякуючы намаганням дачкі паэта Тадзіяны Азаронак-Кляшторнай, загадчыцы музея Святланы Казловай, дырэктара абласнога краязнаўчага музея Вольгі Акуневіч да вечарыны была падрыхтавана выстава, на якой упершыню культурнай грамадскасці Віцебска былі прадстаўлены фотаздымкі сямейнага архіва.

Тодар Кляшторны загінуў ад кулі НКУС 30 кастрычніка 1937 года ў Курапатах. Было яму толькі 34... На вечарыне дацэнт Віцебскага дзяржуніверсітэта паэт Анатоль Канапелька распавядаў, што ў тыя ж дні, 29 і 30 кастрычніка 37-га, разам з Кляшторным былі расстраляны яшчэ дзевяць паэтаў і пісьменнікаў: А. Дудар, М. Чарот, М. Зарэцкі, П. Галавач, А. Вольны, В. Каваль, В. Сташэўскі, В. Маракоў, Я. Нёманскі. На вечарыне прысутнічалі дачка паэта Тадзіяна Тодараўна, яе дзеці і ўнукі. Дарэчы, усе яны віцябляне. Тадзіяна Тодараўна старанна захоўвае ўсё, што хоць нечым нагадвае пра яе бацьку. Было адзначана, што яе маці дзесяць гадоў правяла ў ГУЛАГу, а іх, трох сясцёр, лёс раскідаў па дзіцячых дамах. У 1958 годзе Кляшторныя даведаліся аб рэабілітацыі бацькі і мужа.

У Лепелі, дзе нарадзіўся Тодар Кляшторны, з'явілася вуліца, якая носіць імя паэта. Нашчадкі дбаюць, што ў хуткім часе павінна з'явіцца і бібліятэка імя Кляшторнага.

## "Сёмая грань"

У Віцебскім дзяржуніверсітэце выйшаў першы нумар часопіса "Сёмая грань". Ініцыятар выдання — літаратурная гасцёўня універсітэта і яе спадарыня Вольга Карач. Нумар прысвечаны 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча. У выданні — і вершы маладых паэтаў, і філасофскія эсэ, конкурсы і псіхалагічныя парады.

**Святлана ГУК**

*ГРОДНА...*

## Фестываль творчай моладзі

Сёння ў горадзе распачынаецца рэспубліканскі фестываль тэатральнай моладзі. У шэсць гадзін вечара ў абласным драмтэатры адкрываецца выстава работ маладых сцэнографаў. Праз гадзіну запланавана афіцыйнае адкрыццё фестывалю. Мэта яго — прыцягненне ўвагі да праблем тэатральных калектываў, адкрыццё маладых талентаў. Папярэдні конкурсны агляд вылучыў удзельнікаў: калектывы тэатраў Янкі Купалы, імя Якуба Коласа, Беларускай акадэміі мастацтваў, тэатры лялек з Магілёва, Віцебска, Гродна. У праграме фестывалю не толькі спектаклі, але і імпрэзы, творчыя вечарыны... Завершаны фестываль будзе 8 лістапада.

**Людміла ЛЕБЕДЗЬ**

*ГОМЕЛЬ...*

## Якім быць гораду?..

Гомель з'яўляецца пасля Мінска другім па велічыні горадам рэспублікі. Як яму развівацца далей ва ўсіх сферах, асабліва ў горадабудаўніцтве? Гэтым праблемам быў прысвечаны "круглы стол" па выпрацоўцы новага генеральнага плана развіцця горада. Арганізаваў сустрэчу гарвыканкам у інстытуце "Гомельграмадзянпраект". Прымалі ў ёй удзел старшыня аблвыканкама М. Вайцянкоў, старшыня аблсавета В. Сяліцкі, старшыня гарвыканкама А. Якабсон, намеснік міністра архітэктуры і будаўніцтва Беларусі А. Нічкасаў, вядучыя архітэктары з Мінска і ўсіх абласных цэнтраў краіны, дзеячы культуры і навукі. "Круглы стол" стаў пачаткам не толькі абмеркавання, але і пераўтварэння ў жыццё новага генплана.

## Аўтар "ЛіМа" — госць "Замкавай"

Пры цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Герцана ўжо некалькі гадоў працуе літаратурна-мастацкі салон "Сустрэчы на Замкавай". Замкавая — гэта цэнтральная вуліца горада ў мінулым. Цяпер яе пераемнікам стаў праспект імя Леніна. Менавіта на Замкавай сустракаюцца пісьменнікі, мастакі, архітэктары, музыкі ды краязнаўцы. На гэты раз на вечарыне ўшаноўвалі вядомага беларускага паэта, выкладчыка дзяржуніверсітэта імя Ф. Скарыны Віктара Яраца. Творчая інтэлігенцыя горада віншавала пісьменніка з 50-гадовым юбілеем.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*МАГІЛЁЎ...*

## Неўскі праспект у Бабруйску

Амаль два тыдні вуліца Сацыялістычная, што ў Бабруйску, мела выгляд Неўскага праспекта XIX стагоддзя. Менавіта тут праходзілі здымкі новага мастацкага фільма "Ціхмяная" ("Кроткая") па аднайменным апавяданні Дастаеўскага. Праект кінастудыі "Беларусьфільм". Рэжысёр карціны — зямляк Алег Ганчаронак. У галоўных ролях заняты артысты Андрэй Харытонаў і Вера Шыпіла. Калі Харытонава гледачы ведаюць па фільмах "Авадзень", "Жыццё і смерць Хаакіна Мур'еты", "Чалавек-невідзімка", то для маладой актрысы Веры Шыпілы гэта сапраўды дэбют у кіно. Прэм'ера фільма плануецца на верасень наступнага года.

## "Зязюлечка" спадабалася ўсім

У чарговым туры беларускага тэлефестывалю "Залатыя ключы", які праходзіў у Слуцку, прымаў удзел і дзіцячы танцавальны ансамбль "Зязюлечка" дзіцячага садка N 43 бабруйскага шыннага камбіната "Белшына". На фестывалі выхаванцы харэографа Філіпенкі выконвалі народны танец "Зязюлечка", які вельмі спадабаўся не толькі журы, але і гледачам. Зараз дзеці разам з настаўнікам рыхтуюць новую праграму для выступлення ў паўфінале.

**Алесь Пятровіч**

*БРЭСТ...*

## Яшчэ адна кніжка Ніны Мацяш

Серыя "Берасцейскае вогнішча" папоўнілася яшчэ адной кніжкай — зборнікам вершаў апошніх гадоў Ніны Мацяш "Палёт над жытам". Выйшла яна ў выдавецтве С. Лаўрова на сродкі брэсцкіх, бярозаўскіх і белаазёрскіх фундатараў. Кніжка невялікая, у ёй паўсотні вершаў. Аднак кожны з іх — адметны. Ніна Мацяш адкрывае для сябе ўсё большы тэматычны абсяг, шукае сябе ў фарматворчасці, абапіраючыся на традыцыі айчыннай і заходнееўрапейскай паэзіі. У прыватнасці, ёсць у зборніку цэлая нізка вершаў, напісаных паводле ўражанняў ад паездкі ў Францыю. Да таго ж, зборнік з густам аформлены. Малюнак-застаўку зрабіла сама аўтарка. Дапамогу з наборам і рэдагаваннем кніжкі аказала зямлячка аўтаркі паэтэса Зінаіда Дудзюк.

**Сымон АКСЕНІН**

## Дзяды ў Гомелі...

Некалькі дзесяткаў гамяльчан узялі ўдзел у паніхідзе ля Крыжа ў памяць ахвяраў рэпрэсій 1919-40 гадоў. Паніхіду адслужыў айцец Уладзімір — настаяцель Гомельскай царквы Аляксандра Неўскага.

На мітынгу па сканчэнні паніхіды выступілі: А. Бароўскі — старшыня абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы, В. Карнеенка — кіраўнік рэсурснага цэнтра "Грамадзянскія ініцыятывы", старшыня абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Р. Клімовіч — былы палітвязень. Прысутныя падтрымалі прапанову старшыні гарадской арганізацыі ТБМ В.Башлаковай узвесці побач з Крыжам Памяці невялікую капліцу.

Як і сумнавядомыя Курапаты, лясны масіў, у якім расстрэльвалі гамяльчан, знаходзіцца побач з мяжой горада. Драўляны Крыж Памяці быў пастаўлены тут у 1993 годзе намаганнямі групы грамадзян, у якую ўваходзілі тыя ж Р. Клімовіч і В. Карнеенка. Зараз, зусім побач з месцам масавых забойстваў, вядзецца будаўніцтва, пракладваюцца разнастайныя камунікацыі. Пагроза, што Крыж будзе проста знесены бульдозерам, досыць рэальная. Капліца можа стаць больш трывалай абаронцай чалавечай памяці.

**Андрэй МЕЛЬНІКАЎ**

ПРЭМ'ЕРЫ

## "Месія" — у Мінску!

Пазамінулым вечарам у Вялікай зале сталічнай філармоніі адбылася грандыёзная музычная прэм'ера. Прагучала манументальная араторыя Георга Фрыдрыха Гендэля "Месія" на біблейскі сюжэт. Гэтае выкананне падрыхтавалі беларускія музыканты разам з нямецкімі калегамі — Мінскі абласны камерны хор і аркестр "Sonorus" ды германскі хор "Унтэрмайн". Дырыжор — Аляксей Шут. Музыказнаўчы каментарый зрабіла Вольга Савіцкая.



*На здымку — маэстра Аляксей ШУТ*

*Фота Віт. АМІНАВА*

## Вернісаж у майстэрні

28 кастрычніка жывапісец Аляксей Марачкін запрасіў сяброў на персанальную выставу ва... ўласнай майстэрні. Патлумачыў так: "экспазіцыйная плошча" майстэрні прыблізна такая ж, як і ў галерэі "Мастацтва" (у галерэі "Мастацтва" ладзяцца выставы камернага характару, рэдка звыш 10-12 твораў невялікага памеру), дык чаму б не зрабіць свята сабе і сябрам? Былі прадстаўлены невялікія жывапісныя палотны, якія мастак напісаў гэтым летам падчас вандроўкі па мясцінах Язэпа Драздовіча. Гэта не краявіды — гэта паэтычна-асацыятыўны шэраг, які нараджаецца ад судакранання з лёсам "вечнага вандроўніка", якім быў дзядзька Язэп. Убачанае ўразіла. Хтосьці нават выказаў думку, што гэта новая плынь у творчасці Марачкіна. Мне ж здаецца, што гэта, хутчэй, новы паварот у традыцыйнай для Аляксея Антонавіча тэме.

Гэтыя творы, гэтую серыю А. Марачкін збіраецца экспанаваць за мяжою. Значыць, штосьці там і застанецца. Шчыра кажучы, шкада...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# Ці патрэбна "грамадзянам свету" Бацькаўшчына?

## КУХОННЫЯ РАЗВАГІ АБ "НЕДАХОПАХ" ПУБЛІЦЫСТЫКІ

НА ПАЧАТКУ кастрычніка зайшоў сябра. Бачымся рэдка, таму й не дакучаем адзін аднаму. Сядзім восеньскімі прыцемкамі на халоднай кухні. П'ём "прафілактычную" гарэлку і абавязковую каву. Грэемся і размаўляем. Рэй, як заўжды, вядзе сябра.

— Неяк квола пішаш. Нерашуча! Разважаеш шмат. Наконт таго, чаго ніхто не разумее. І ты ў тым ліку. Публіцыстыку з нейкай дамарослай "кухоннай" філасофіяй блытаеш. Філосаф! А публіцыстыка — жыццё. Схапіў чытача за руку і цягні яго рашуча па гэтым жыцці да пераможнай сюжэтнай развязкі. Так, па жыцці... У якім ты так і не навучыўся разбірацца. І што за бездапаможнасць у лексіцы?! "Мабыць", "здаецца", "напэўна"... Жыццё, а значыць публіцыстыка — гэта сацыяльная драма, калі хочаш — нават трагедыя. Я б сказаў — сацыяльны дэтэктыў. Кожны пакрыўджаны і ніводнага пакаранага. Крыві і слёз — вышэй галавы.

Так што ніякіх пабочных слоў. Толькі дзеясловы: "ірвануўся", "прыстасаваўся", "падмануў", "падмануўся", зноў "кінуўся"... Ніякай размазні — толькі канкрэтыка. Ніякіх эмоцый — толькі бязлітаснасць у адлюстраванні. Чытач сам разбярэцца. Калі не дурань — на чужых памылках жыць навучыцца... Карацей, вучыся, пакуль я тут...

Вучуся. Толькі і раблю, што гэтым займаюся. І ўсё на сваіх памылках. Дыялектыка дэградацыі, гары яна гарам. Пісаць жыццё, у якім ніхто не хоча жыць... Бездапаможна спрабаваць змяніць свет, і беззваротна мяняцца пры гэтым самому... Сапраўды, што такое публіцыстыка? Ацэнка з'яў бягучага існавання грамадства з пункту гледжання сацыяльных аўтарскіх ідэалаў? Занадта ўсё проста. Студэнцкі дапаможнік "Жанры савецкай газеты", куплены калісьці за трояк у пахмельных сяброў-газетчыкаў, па-ленінску катэгарычна сцвярджае, што "гісторыю трэба пісаць так, каб бытаапісанне гэтае прыносіла пасільную дапамогу героям-пралетарыям". Не менш катэгарычна даводзяць амаль пра тое ж і сучасныя даведнікі. Лухта! Не прыносім дапамогі, бо пішам не так, думаем не пра тое, не тыя "сацыяльныя ідэалы" снім. І ўвогуле гэта з галіны шызарэалізму: упрошваць беларуса, каб стаў ён беларусам. Ды гары яно, сапраўды, усё гарам. Эстэцтва гэткіх долакапальнікаў: вышукваць-выкопваць адмоўнае, высвятляць негатыўнае, крычаць аб відавочных шляхах выйсця (Ну, куды ж мы, небаракі, у прыцемкі? Туды давайце, усе разам, дзе сонейка ў акенца! Ну, куды ж мы?!), енчыць, "спрабуючы дапамагчы" на ўсю беларускую ваколіцу і пасыпаць попелам галаву ў пасіўным чаканні змен, якіх абыякавае жыццё напрыканцы стагоддзя проста не запланавала. Эстэцтва скамарохаў-блазнаў, злабадзённыя прыпеўкі якіх не маюць сэнсу, бо проста дакучаюць тым, хто ў клопатах аб дабрабыце блізкіх ні ад кога не чакае дапамогі, а спадзяецца ўжо толькі на сябе...

Так што не так пішам, спадары. Не кранаем, не завём, не вядзем за сабою... І, узяўшы асадку ў рукі, амаль заўжды блытаемся ў мэтах. Упрыгожваючы жыццё, шукаючы дзеля гэтага сярод мноства афіцыйных праўдаў адзіную нашу, ці не прыніжаем мы ўшчэнт гэтае і без таго гаротнае жыццё? У імкненні зрабіць яго лепшым ці не пераўтвараем наваколле ў сметнік нашых неажыццёўленых ідэй, мар і высакародных з першага погляду памкненняў? Пры ўсім тым, што на загноеных жывёлагадоўчых фермах і забітых пустазеллем нівах так не хапае рабочых рук. І каб месцы ў рэдакцыйных "стадолах" захаваць, многія ўжо гісторыю не пішуць, а перапісваюць. Пераважна па-руску...

Згодны з сябрам. Шмат размазні, зашмат эмоцый! А жыццё — рэч нягнуткая. І наканавана нам такое, якога заслугоўваем. Мяняць яго з журналісцкай асадкай у руцэ — што з парасонам пад танкі. І не самакапанне "героям-пралетарыям" патрэбна. Ад дастаеўшчыны ды быкаўшчыны паўкроку да вар'яцтва з несуцяшальным дыягназам: "сканаў у пошуках уласнае годнасці".

— Вось-вось, — падтаквае сябра. — Мяняешся на вачах. Чытача разбухторваць трэба. Тады толькі штосьці зменіцца. Усе беды ад розуму ў свеце. Чалавек у большасці сваёй хоча не жыццё памяняць, а прыстасавацца да яго. Дай яму супакоіцца. Прапануй прыгожы свет, дзе кожная сцяжынка — да багацця. Пакажы крыху свет дрэнны. У жанры сацыяльнага дэтэктыву. Толькі нагадай абавязкова: не пра вас гэта, браточкі! Гэта не ў нас з кожным годам маладзее прастытуцыя і наркаманія. Гэта не нашыя блізкія прапіваюць штодня ўсё, што маюць і не маюць. Гэта не мы бедныя, падманутыя і да канца жыцця пакрыўджаныя... Ты не заўважаў, з якім імпэтам чытаюць вакол дэтэктывы, жаночыя раманы, не адрываюцца ад серыялаў? Так, людзям не стае ідэалаў. Прыгожа прыдуманых, нічым не заплямленых, чыстых і высакародных! Дапамажы ім. І не дай табе Бог успамінаць пра нацыянальную ідэю. Што нас можа аб'яднаць, дзівак? Тое, чаму навучыў Багдановіч, знішчыў Сталін. Чаму навучыў Быкаў, знішчылі мы самі... Ва ўжытку на сёння толькі адна практычная выснова: "Калі я разумны, дык чаму я такі бедны?" Навучы людзей быць нягоднікамі... Зрэшты, з гэтым яны і без цябе ўпраўляюцца...

Маўкліва слухаю сябра і веру кожнаму слову. На кожны ягоны вывад перад вачыма канкрэтны пераканаўчы прыклад... У грамадскім транспарце мы даўно не абмяркоўваем учарашнія газеты (дакладна вядома, што будзе надрукавана нават у заўтрашніх), не скардзімся ўжо на недасягальнасць долара. Мы маўчым, голасна ўспамінаючы хіба толькі неўміручую "Санту-Барбару" — амаль успрымаемы дотыкам, а таму такі салодкі для нас міф. Вось такія грамадска-палітычныя праблемы "герояў-пралетарыяў". Мы маўчым, бо па вушы ў палоне савецкасці — пасіўнай і абыякавай, але такой магутнай пачвары. Усё, што магло адбыцца на Беларусі, ужо адбылося. Мы зрабілі сябе, не ўдарыўшы пры гэтым пальцам аб палец.

Так, філасофія, абмежаваная беларускімі весніцамі, — ілжэнавука. Як не спрачайся з сябрам, але аргументы занадта слабыя. Так, нельга філасофстваваць, разважаць аб жыцці, якога пакуль няма. Ці мае сэнс адбудоўваць у соты раз хаціну на прысаку? Дый для каго? Народ, які не здолеў стаць нацыяй, шукае ўласную дзяржаву ўнутры сябе. Нас не аб'ядноўвае гора, нават чарнобыльскае. Не аб'ядноўвае тым больш шчасце. У кожнага яно зменшылася і звузілася да памераў штомесячнага заробку. І, натуральна, дзяліцца мы не збіраемся, бо "шчасце" гэтае "заўжды з намі" толькі на працягу некалькіх дзён, праведзеных у мітуслівых пошуках круп, масла і цыгарэт. Ці ёсць нам справа да цвярозай ацэнкі таго, што адбываецца вакол? Амаль дзесяць мільёнаў незалежных дзяржаў пры адсутнасці сапраўднай адзінай агульнай...

Так, мы не дурні! Культура, навука, адукацыя, хістаючыся ад нішчымніцы, упарта стараюцца давесці, што вытокі нашы, колішні дух-водар беларускасці і па сёння жывяць чалавечы свет, што, паблукаўшы старцамі-прымакамі, проста не можам не вярнуцца да сябе. І зразумеем урэшце сябе, і не даруем, зразумеўшы, і паспрабуем усё спачатку, і, дай Бог, каб чарговае адраджэнне было плённым і апошнім... А пакуль маўчым, сабраўшы ў прыгаршчы тое,што называлася калісьці духоўным. Маўчым, раз'яднаныя, супярэчлівыя, аніякія. Не можам дацяміць, чаму мы бедныя, калі такія разумныя.

— Усё грамадства наша дзеліцца на дзве катэгорыі, — упэўнена працягвае "лікбез" сябра. — На бедных і яшчэ больш бедных. Удакладняю. Багатыя ёсць. Але стаяць яны па-над грамадствам. Багатых адносна мала, але капіталаў у іх — не на адзін дзяржаўны бюджэт. Грошы амаль з паветра: зброя, наркотыкі, эканамічныя і палітычныя гульні... Не будзем чапаць багатых. Як ні круці, а патрэбныя яны вельмі. Як шчупакі ў возеры, каб карасі не драмалі. Лепш — пра карасёў. Бедных я б на дзве групы падзяліў. Пачынаючыя (амаль сумленныя) і з вопытам. Сярод апошніх — прадпрымальнікі з партыйным мінулым, больш-менш буйныя камерсанты, дарэчы, прадажныя (ці купленыя, разумей як хочаш) журналісты... У гэтых усё "схоплена", выжываюць яны ў цесным кантакце з багатымі, але ніколі імі не стануць, бо ля кармушкі ўсім месца не хопіць. Пачынаючых бедных крыху больш. Гэта ў асноўным былыя "ітээраўцы", настаўнікі, дробныя дзяржаўныя служачыя і рабочыя, якія не згубілі жадання застацца ў гэтым вэрхале хоць у нейкай ступені незалежнымі. Гандлююць на рынках, перапрадаюць аўтамабілі, таксуюць, штосьці камусьці будуюць на "шабашках"... Трапляюцца сярод іх і сумленныя. Як я, напрыклад. З багатымі спраў мець не хачу, але і ў жабраках хадзіць не жадаю. Так і застануся "пачынаючым". Грошы на пражыццё ёсць, а вопыту ваўчынага набірацца не да твару. Зарабляю не махлярствам, а ўласнымі рукамі... Дык вось нас, на сябе зарабляючых, публіцыстычнымі заклікамі да лепшае долі не падманеш. Мы яе самі для сябе будуем. Не па ўказцы дамарослых эстэтаў-філосафаў, а ў адпаведнасці з пачуццём уласнае годнасці (можна назваць усё гэта і інстынктам самазахавання). Менавіта так. І нічога ў гэтым ганебнага, безумоўна, няма. Мая дзяржава — гэта мая сям'я. І мне, шчыра кажучы, пляваць зараз, на якой мове яна размаўляе і думае. Галоўнае, каб сытыя ўсе былі ды здаровыя. І колер сцяга дзяржаўнага мяне не хвалюе: бел-чырвона-белы ці чырвона-зялёны. Абы зарабляць не перашкаджалі, пакуль малады я ды здаровы... У адзіным згаджаюся з табой: няма дзяржавы "Беларусь". Хоць па пашпарце я не турак, не яўрэй ці немец, але ўжо і не беларус. Як ты зараз тут не спрачайся, але даўно для сябе вызначыў — грамадзянін свету я. Досыць! Хопіць з брудам змешваць! І дзяцей сваіх прывучаю, "людзьмі на балоце" быць не дазволю. Над замежнымі мовамі карпяць, не беларусамі, а грамадзянамі свету стануць. Чым такая радзіма, дык лепей бязроднасць...

І не думаю з сябрам спрачацца. Збіраліся ж проста кавы папіць. У пакоі холадна ды няўтульна. А за вакном у восеньскай цемры абрыдлай падсветленай плямай — рэкламны шчыт ля дарогі: "Автомобильный и вещевой рынок". Як урачыстая брама ў доўгачаканы рай, дзе ні бедных, ні багатых, адно толькі сытая да нястраўнасці радасць... Не, рэдка бачымся з сябрам. Усё горш разумеем адзін аднаго. Ці мо ніколі й не разумелі? А, можа, мы пра адное і тое ж, толькі па-рознаму? Я сумняваюся ва ўсім, пакутую ў пошуках ісціны, якой мо і няма ў свеце, сто разоў на дні памыляюся. А ён упэўнены ў сваёй жыццёвай імклівасці, заўжды катэгарычны ды ваяўнічы. Толькі вось вочы — як у адлупцаванага ні за што сабакі. Грамадзянін уласнага свету. Беларус без Беларусі. Ды не, разумеем адзін аднаго. Інакш і не было б гэтай вячэрняй размовы, пакутлівай, як кастрычніцкая слата за акном.

— Ну, а пра "яшчэ больш бедных" ні слова чаму не сказаў?

— А не хвалююць яны мяне, — натапырваецца сябра яшчэ больш. — Статак! Твая кліентура. Вось для іх і пішы свае артыкулы, пудры мазгі ды палохай "чарнухай". Калі грошай у іх на газету вашу хопіць... Не бедныя яны, а жабракі, якія перад усім і ўсімі галаву схілілі. Працэнтаў восемдзесят такіх. На дзяржаву быццам бы працуюць. Ды і ты сярод іх. Няздольны і рукой паварухнуць, каб не пакутаваць ад авансу да палучкі... З-за такіх і беды ўсе. Разумныя! Дык чаму ж жабракі?! На самай справе — аніякія!

— Так, давай, цісні нас, недарэкаў! — і смяюся, і сумую адначасова.

— Не, усё ж такі нейкі сэнс у тваёй працы ёсць. Я табе кажу — дэтэктывы сацыяльныя пішы. З кроўю, стогнамі, слязьмі! Каб спячка ўласная жабракам абрыдла. Каб ад ідэалаў прыдуманых ванітаваць пачало. Каб разварушыліся, адстойваць сябе пачалі. Раптам хто здуру і прачытае. Напішы, напрыклад, як я грошы ў Маскве зарабляў. Катэдж будаваў аднаму "беспрацоўнаму" ды "беднаму" маскалю. У адзіночку. Дзе працаваў, там спаў і ежу гатаваў. Схуднеў на нітку. З канкурэнтамі-зайздроснікамі біўся. Па суседстве, балазе, брыгада землякоў шабашыла. Дапамагалі адбівацца. Але дахаты калі ехалі, не пашанцавала ім. Гаспадар "кінуў". Прама ў вагоне чыгуначным "амап" на калені ўсіх паставіў і ўсё да рубля апошняга "экспрапрыіраваў"... Не, не пішы пра гэта. Напалохаюцца, небаракі. Занадта крыві ўжо шмат. Зазнач толькі, што на маім баку шчасце аказалася. За два тыдні ўмудрыўся выжыць і паўтары тысячы долараў зарабіць. Гонар мне і пашана. А жабракам урок чарговы: для таго, каб незалежным быць ды невядома на каго гарбаціцца, і рызыкнуць іншым разам неабходна. Інакш жабраком памрэш. Вось такая сюжэтная развязка. Вось такі сацыяльны дэтэктыў!

Насуперак усяму дзялюся з сябрам уласнымі журналісцкімі ўражаннямі. Разважаю пра нейкі трагізм, заўжды прадвызначаны ў лёсе любога шукальніка ўласнай грашовай незалежнасці. Пытаюся ў "грамадзяніна свету", чаму з такім цынізмам на жыццё пазірае. Маўляў, няўжо так лягчэй сумленне сваё супакоіць? А той зноў не на жарт абураецца:

— Ты кажаш — цынізм? Глупства! Практычны погляд на рэчы. Цынічна на ўлады скардзіцца, а самому нічога не рабіць, каб сваё жыццё добраўпарадкаваць. Цынічна кагосьці жыццю вучыць, а самому блытацца ў лабірынтах падсвядомасці... Вось гаворыш, безвыходнасць наўкола? Сын бацьку па п'янцы забівае бязлітасна? Правільна ўсё! А на што ён яшчэ здольны? Няма куды рукі прыкласці, вось і прапівае розум, а жыццё міма праходзіць. За што шкадаваць такога? Не жабрак ён нават, а жывёла самая апошняя, толькі есці ды піць здольная. Надакучыла гэтая беларуская абыякавасць... Кажаш, былы выпускнік школы на крадзяжы аўтамабільных колаў "пагарэў" і ў турме тры гады адседзеў, маладосць сапсаваўшы? Прычыны тыя ж! Уласнае глупства драмучае! Вось інтэлігенцыя, так званая эліта нацыі, і вінаватая. Адседзелася ўпустую, прамаргала ды пралялёкала ўсё, што можна, дазволіла маўкліва, каб людзі людзьмі сябе не лічылі. А людзям гэтым, асабліва зараз, не элітарныя самаўлюбёныя разважанні аб сэнсе жыцця патрэбны. Не казкі пра духоўнае ды спрадвечнае. Пра гэта і пасля можна.

— Калі пасля? Калі народ ад натоўпу адрозніць ужо нельга будзе?

— Ды не, нездагадлівы! Калі грашовая ўпэўненасць у заўтрашнім і паслязаўтрашнім дні з'явіцца. Калі жабракоў паменее, калі толькі багатыя застануцца (куды ж без іх, крывасмокаў) і не вельмі бедныя — сярэдні клас так званы. Толькі на дзяржаву, сам разумееш, спадзявацца тут няма чаго (іншыя ў яе мэты), адзіны сродак — уласныя рукі ды разваротлівасць. Будзе нас, такіх незалежных, шмат, будзем і мы сілай. Няхай рызыкоўна, няхай небяспечна (калі ж сумленныя грошы лёгка даставаліся?). Але інакш ці можна? Вось калі з жабракоў выб'емся, тады і прыходзьце з нацыянальнымі ідэямі. А пакуль... грамадзяне свету мы. Патрыятызм — справа добрая, але ўжо надта на сёння абстрактная. Я б на месцы пісьменнікаў ды журналістаў народу прапанаваў не творы песімістычныя, не артыкулы, дзе ад нечытэльнага чорнага рэалізму і дзецца няма куды, а грунтоўную навуковую інструкцыю па выжыванні. Як закон не парушыць, як гандляваць правільна, на працу наймацца без юрыдычных памылак, годнасць сваю ўласную адстойваць у спрэчках з бюракратамі... Ды ці мала праблем у "маленькага" чалавека. Вось у жывёлу ён і пераўтвараецца без шчырай дабрачыннай дапамогі. А ці ж не інтэлігенцыі гэта справа?! Калі ўладам не да нас, дык няхай псіхолагі, эканамісты, юрысты свядомыя да напісання такога "твора" падключацца... Чаму, напрыклад, у Германіі вучаць школьнікаў не толькі асноўным дысцыплінам, але і банкаўскай справе, юрыспрудэнцыі? А нашы і правоў сваіх дакладна не ведаюць. А школ, дзе камп'ютэры сучасныя ёсць, дык увогуле па Беларусі адзінкі. Я сваім малым у першую чаргу самы суперновы купіў, бо не беларусамі ім быць, а грамадзянамі свету. А якая будучыня ў іншай малечы? Адыходзяць ад школьнага ганка — і ў большасці альбо адразу ў турму, альбо ў жабракі. Дыялектыка савецкага рабства... Так што не Быкаў з Талстым зараз патрэбныя, а цынізм ды сіла, каб сваё месца пад сонейкам знайсці і ўтрымаць. Сонейка хоць і вялікае, аднак не ўсіх абагрэе, а таго толькі, хто з сэрцам цвярозым, рукамі дужымі ды з уменнем жыць не па-жабрацку. Не да сантыментаў тут...

— І кахаць нікога не варта, — падхопліваю я, — каб не падмануцца потым. І не зоркі на небе лічыць, а грошы ў партманеце. Не вершы чытаць, а крымінальны кодэкс. І сяброўства — справа бессэнсоўная, бо ніякіх матэрыяльных прыбыткаў не прадугледжвае...

Мы смяёмся, дапіваем каву, за сценкай, досыць "адваяваўшыся", засынаюць мае сыны... Сябар праз ліфтавыя дзверы крычыць: "Трымайся, але не трывай!" Развітваецца і знікае. Зноў надоўга. Зноў з вялікім жаданнем непрымірымасці да ўсяго, што наўкола... Мы непадобныя, але разумеем адзін аднаго. Ён не лічыць сябе багатым. Я не лічу сябе бедным. Мы, здаецца, не памыляемся. І не вялікі для мяне сакрэт, што ўпарты і цынічны "грамадзянін свету" скупляе цішком дзе толькі можна шыкоўныя тамы "Беларускага кнігазбору". Відаць, як інструкцыю для самазахавання. Да лепшых беларускіх часін.

**Яўген РАГІН**

## Аднаўленне традыцый






**Традыцыйна моцнымі на працягу многіх гадоў былі культурныя сувязі Беларусі і Балгарыі. Зараз, у час палітычнай напружанасці, сувязі гэтыя займелі яшчэ большае значэнне. Аднавіць іх паставіла сабе на мэце беларускае пасольства ў братняй славянскай краіне, арганізаваўшы ў Сафіі і горадзе Карлава Дні культуры Беларусі.**

**У рамках гэтых дзён прайшла ўрачыстая прэзентацыя толькі што выдадзенага ў перакладзе на балгарскую мову паэтычнага зборніка Яўгеніі Янішчыц, дзе прысутнічаў віцэ-прэзідэнт Балгарыі, адбыліся літаратурныя святы з удзелам балгарскіх і беларускіх паэтаў і перакладчыкаў. Адным з вынікаў гэтай культурнай акцыі стаў пратакол пагадненняў паміж саюзамі балгарскіх і беларускіх пісьменнікаў.**

## "Казкі жыцця"

**Так называецца традыцыйны дзіцячы ранішнік, які праходзіць у Коласавым доме напярэдадні дня нараджэння вялікага песняра. Сёлета Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа падрыхтаваў сваім гасцям — выхаванцам мінскіх дзіцячых садкоў — цудоўны падарунак. На сустрэчу да дзетак прыйшлі цікавыя людзі — дзіцячыя пісьменнікі Ніна Галіноўская, Мікола Чарняўскі і малодшы сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч.**

**Першай прывітала ўсіх прысутных вядучая Святлана Субат, супрацоўніца музея. Паэтка Ніна Галіноўская захапіла маленькіх слухачоў сваімі добрымі, непасрэднымі вершамі і апавяданнямі. Паэт-"вясёлкавец" Мікола Чарняўскі ўвёў дзетак у таямнічы свет загадак, шарад, скорагаворак.**

**Даверліва шчырыя дзіцячыя вочкі ажывіліся, калі выступіў Міхась Міцкевіч. Галоўны герой паэмы Якуба Коласа "Міхасёвы прыгоды" здзівіў іх сваёй незвычайнай здольнасцю размаўляць галасамі розных жывёл і птушак.**

**А на заканчэнне свята выхаванцы дзіцячага садка N 328 Мінскага аўтазавода паказалі сваім сябрам невялічкі спектакль. Хлопчыкі і дзяўчынкі спявалі, чыталі Коласавы вершы.**

**Н. МАКРЫЦКАЯ**

## Чаканы "Родны край"

**Запазніўся сёлета перакідны беларускамоўны каляндар "Родны край", які, як вядома, выпускае выдавецтва "Беларусь". За гэты час многія паспелі набыць ужо календары, што з'явіліся на неабдымных расійскіх прасторах і, зразумела, выдадзеныя па-руску. Праўда, паспяшаліся ўнесці свой уклад у "інтэрнацыяналізацыю" і некаторыя беларускія выдаўцы. Ды той, хто паспеў палюбіць "Родны край", не спакусіліся на гэта, а чакалі яго. У выпуску на 1999 год, як і ў папярэдніх, вялікая ўвага звернута на знамянальныя і памятныя даты, адзначаюцца юбілеі грамадскіх і палітычных дзеячаў, вядомых пісьменнікаў, мастакоў, прадстаўнікоў іншых творчых прафесій. Даюцца ў календары розныя парады, надрукаваны мастацкія творы, знайшлося месца сатыры і гумару. І, канечне ж, як і практыкуецца ў аналагічных выданнях, называецца час усходу і заходу сонца, а таксама месяца, прыводзяцца праваслаўныя і каталіцкія імёны, звязаныя з пэўным днём у годзе.**

***Неад'емная частка навукі — дыскусіі, спрэчкі паміж рознымі навуковымі школамі, накірункамі, між калегамі розных перакананняў. Выраз "У спрэчках нараджаецца ісціна" даўно зрабіўся банальнасцю, як і сакраментальнае "Што ёсць ісціна?". Прынамсі, у навуцы спрэчкі павінны быць канструктыўнымі — на шчасце, прамінулі часы, калі аргументам у такіх спрэчках было аўтадафэ. Вось толькі вызначыць, на чым баку ісціна, па-ранейшаму няпроста. Асабліва калі ў якасці суддзяў спрабуюць прыцягнуць так званую "шырокую грамадскасць". І, шчыра кажучы, для рэдакцыі ненавуковага выдання быць арбітрам у навуковай спрэчцы — справа няўдзячная. Але ў дадзеным выпадку справа тычыцца непасрэдна таго прадмета, які нават вынесены ў загаловак нашай газеты — літаратуры. Да нас звярнулася дацэнт кафедры беларускага літаратуразнаўства Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта З. Мельнікава з просьбай асвятліць сітуацыю, якая склалася вакол праграмы па роднай літаратуры для агульнаадукацыйных школ, распрацаванай згаданай установай. Плён працы брэсцкіх навукоўцаў выклікаў рэзкую крытыку іх мінскіх калег, якія распрацавалі аналагічную праграму, але на іншых прынцыпах. У якасці прыкладу неаб'ектыўнай крытыкі З. Мельнікава даслала ў рэдакцыю рэцэнзію на падручнікі, падрыхтаваныя берасцейскім калектывам, сталічнага навукоўца прафесара А. Рагулі. Такім чынам наша задача спрошчаная: мы маем магчымасць пазнаёміць чытача з меркаваннямі і аргументамі абодвух бакоў. Думаецца, што публікацыя прыцягне ўвагу зацікаўленых асоб, у тым ліку тых, хто карыстаецца згаданымі праграмамі ў прафесійнай практыцы.***

# Спадзяванне на нашчадкаў,
## або Яшчэ раз пра беларускае самаедства

Пішу гэтыя радкі, бо веру, што нашы нашчадкі праз гадоў 50—70 будуць учытвацца ў старонкі "ЛіМа" гэтаксама, як мы сёння з павагай і цікавасцю перагортваем віленскую "Нашу Ніву" пачатку ХХ стагоддзя. Як мы сёння задумваемся над лёсамі нашаніўцаў і іх сучаснікаў і асэнсоўваем плён іх руплівай сяўбы для нас, гэтаксама новыя пакаленні грамадзян Беларусі, гартаючы "ЛіМ" у ХХІ стагоддзі, будуць пазнаваць нас і меркаваць аб нашых справах і клопаце аб нашчадках. Душа жыве спадзяваннем, што нарэшце ў XXI *стагоддзі яны, нашы нашчадкі*, не будуць пакутаваць ад прымітыўнай знішчальнай зайздрасці, высакамернай амбітнасці і напышлівасці, традыцыйнага тутэйшага самаедства. Беларусы будучага, выконваючы запавет сваіх вялікіх духоўных бацькоў Купалы, Коласа, Гарэцкага, Багдановіча, будуць сеяць разам, дружна дзеля новых пакаленняў грамадзян незалежнай і шчаслівай Беларусі.

На пачатку 90-х гадоў Міністэрства адукацыі Беларусі даручыла кафедры беларускай літаратуры, якой кіравала прафесар Вера Якаўлеўна Зарэцкая (Ляшук), тады яшчэ Брэсцкага педінстытута распрацаваць праграму па роднай літаратуры для агульнаадукацыйных школ з беларускай і рускай мовамі навучання. Навуковым калектывам, у складзе якога, акрамя прафесара В. Зарэцкай, былі вядомы літаратуразнаўца, аўтар праграм і вучэбных дапаможнікаў для ВНУ і школ прафесар А. Майсейчык, дацэнт У. Лебедзеў, З. Мельнікава, У. Сенькавец, старшыя выкладчыкі К. Мароз, Н. Барсук, Г. Ішчанка, *Г. Гарадко, была праароблена* вялікая і патрэбная дзяржаве справа — распрацавана новая праграма. Наша праграма мела важную адметнасць, абумоўленую дэпалітызацыяй, дэідэалагізацыяй грамадскага жыцця, усёй школьнай і ў тым ліку літаратурнай адукацыі. Прыярытэтамі яе сталі агульначалавечыя каштоўнасці і крытэрыі, якія на дзяржаўным узроўні былі сфармуляваны ў пачатку 90-х гадоў як "гуманізацыя адукацыі". Гэта — каштоўнасць асобы, чалавечага жыцця, сям'і, школы, радзімы, грамадства, чалавецтва, прыроды, чысціні і жыватворнасці акаляючага асяроддзя...

Для будучых даследчыкаў і неабыякавых, зацікаўленых сучаснікаў зазначу, што мы ўпершыню ўвялі ў школьны літаратурны ўжытак творы М. Гарэцкага, Л. Чарняўскай, А. Гаруна, многія творы У. Караткевіча, Я. Баршчэўскага, С. Шушкевіча, І. Пташнікава, М. Стральцова, П. Місько, С. Законнікава, У. Някляева, Г. Далідовіча, А. Кудраўца... Прапанавалі вывучэнне спадчыны рэпрэсіраваных пісьменнікаў Я. Пушчы, У. Дубоўкі, Я. Нёманскага, У. Жылкі, А. Мрыя, Л. Геніюш, пісьменнікаў беларускага замежжа — А. Барскага, Н. Арсенневай, М. Сяднёва. Мы ўпершыню ўвялі манаграфічную тэму "Васіль Быкаў", шырока прадставілі сучаснае пакаленне, якое нясе асноўную службу ў літаратуры сёння: Р. Барадулін, Я. Брыль, Г. Бураўкін, А. Вярцінскі, В. Карамазаў, У. Арлоў, Л. Дайнека, Д. Бічэль-Загнетава, Н. Гілевіч, Я. Сіпакоў, В. Зуёнак, А. Дудараў, Н. Мацяш, А. Жук, В. Казько, У. Дамашэвіч, І. Навуменка, А. Разанаў... Родную літаратуру мы прапанавалі вывучаць у кантэксце з сугучнымі па праблематыцы творамі суседніх і іншых літаратур, каб вучні бачылі, што наша літаратура багатая і сур'ёзная, што беларускіх пісьменнікаў хвалявалі і хвалююць тыя ж праблемы, што і іншых выдатных мастакоў *слова:* Т. Шаўчэнку, А. Сент-Экзюперы, Шолам-Алейхема, Ч. Айтматава, А. Ганчара, Э. Хемінгуэя, Дж. Стэйнбека, Э. Рэмарка, У. Шэкспіра, Р. Брэдберы, Г. Лангфела, М. Канапніцкую, Д. Дэфо... Не без задавальнення заўважу, што многія ўпершыню названыя намі творы супрацоўнікі Нацыянальнага інстытута адукацыі ўключылі следам за намі ў сваю праграму, якая стваралася пад кіраўніцтвам загадчыка лабараторыі літаратурнай адукацыі, доктара філалагічных навук, прафесара, акадэміка АПН СССР М. Лазарука.

Змест і структура праграмы берасцейскіх аўтараў вызначаюцца тым, што ў аснову літаратурнай адукацыі пакладзены мастацкі твор, звесткі па тэорыі літаратуры, якія паглыбляюць культуру чытання, спасціжэння сутнасці твора і майстэрства пісьменніка, урокі развіцця вуснай і пісьмовай мовы вучняў, выразна акрэслены пэўныя веды і ўменні для вучняў кожнага класа. У сярэдніх класах мастацкія творы праграмы і падручнікаў, якія пачалі выходзіць з 1995 года, скампанаваны ў чатыры жанрава разнастайныя тэматычныя раздзелы: "Чалавек і Чалавек" (творы пераважна маральна-этычнай праблематыкі), "Чалавек і Грамадства" (пераважна творы аб выдатных сынах і дочках Беларусі, аб далёкіх і не вельмі даўніх падзеях гісторыі і жыцця беларусаў), "Чалавек і Прырода" (пейзажныя творы, творы аб неабходнасці берагчы жывую, нежывую прыроду, "братоў нашых меншых"), "Чалавек і Зямля" (творы, у якіх выразна гучыць трывога за будучыню Жыцця і Чалавецтва, адказнасць чалавека за вынікі навуковых адкрыццяў і за існаванне ўсяго жывога на нашай планеце).

У 7—9 класах базавай школы мы прапануем знаёміць вучняў з лепшымі, класічнымі творамі беларускай літаратуры, а таксама з сучаснай літаратурай. Так, напрыклад, у 9-м класе вучням прапанавана вывучэнне шэрагу арыгінальных, цікавых для юнацкага ўспрымання твораў роднай літаратуры больш чым 20-ці аўтараў, сярод якіх У. Караткевіч, А. Вярцінскі, І. Пташнікаў, В. Адамчык, І. Чыгрынаў, В. Карамазаў, Р. Барадулін, В.

# Зборнік артыкулаў і анталогія?

### РЭЦЭНЗІЯ НА ХРЭСТАМАТЫЮ "РОДНАЯ ЛІТАРАТУРА ДЛЯ 11 КЛАСА" (СКЛАДАЛЬНІКІ АСТАШОНАК Л. В., ГАРАДКО Г. С., ЛЯШУК В. Я.) І ПАДРУЧНІК "РОДНАЯ ЛІТАРАТУРА ДЛЯ 11 КЛАСА" (ПАД РЭД. В. Я. ЛЯШУК)

Падручнік па літаратуры для 11-га класа сярэдняй агульнаадукацыйнай школы павінен адпавядаць агульным тэарэтыка-метадалагічным запатрабаванням і аднachасова адлюстроўваць спецыфіку выпускнога класа — абагульняючага курса. У сувязі з гэтым пытанне пра навукова-метадалагічны і тэарэтычны ўзровень мае ў курсе літаратуры 11-га класа асобае значэнне. На заключным этапе вучні павінны атрымаць выразнае ўяўленне *пра актуальны стан літаратуры і заадно сфарміраваць* думку пра яе ў цэлым як спецыфічную з'яву нацыянальнай мастацкай культуры. Дасягнуць такога ўзроўню можна, ідучы шляхам сінтэзу — паглыбленага вывучэння агульнакультурнай значымасці мастацкага слова, яго ролі ў фарміраванні светапогляднай культуры нацыі. Найбольш адпаведным метадам у дадзенай сітуацыі будзе структурна-функцыянальны падыход. Асэнсаванне функцыянальнай ролі структуры не толькі раскрывае шлях як семантычнай эмеяльнасці і ўзбагачэння, але і набліжае да цэласнага спасціжэння духоўнай культуры як нацыянальна спецыфічнай з'явы агульначалавечай значымасці. Пры такім падыходзе ў цэнтры ўвагі будуць пастаўлены базавыя катэгорыі, абысці якія немагчыма ў падручніку "гісторыка-літаратурнага тыпу". Да такіх катэгорыяў трэба аднесці паняцці "стадыяльнае развіццё", "стыль", "мастацкая сітуацыя", "структура", "кантэкст". Акрамя таго, існуюць яшчэ і спецыфічныя для нацыянальнай культуры топасы, якія адлюстроўваюць яе нацыянальную і індывідуальна-творчую каштоўнасць. Найбольш характэрнымі для беларускай літаратуры з'яўляюцца базісныя канцэпты "шлях", "культурная прастора", "зямля", "людскасць". На розных этапах гісторыка-культурнага працэсу своеасаблівымі абсалютамі станавіліся культурэмы "дрэва", "храм", "дом" ("хата"), "тэатр", "мова", "школа" (у Ясперса — "універсітэт"). Адносіны да закладзенага ў іх інтэлектуальнага вопыту і маральнага імператыву вызначаючаць ступень сацыяльнай самарэалізацыі суб'екта. Менавіта сэнсатворчы і фарматворчы кірунак складае ядро гуманістычнага зместу беларускай літаратуры 20-га стагоддзя.

Вырашыць задачу вывучэння літаратуры на належным навукова-метадычным узроўні магчыма тады, калі гэты ўзровень закладзены ў праграме. Складзеная пад кіраўніцтвам В. Ляшук праграма "Беларуская літаратура, V—XI класы" (1997) напісана згодна з метадалогіяй "следам за аўтарам". Паўзучы эмпірызм гэтай метадалогіі, узведзены ва універсальны прынцып, прывёў, як і трэба было чакаць, да спрошчанага дыдактызму. У выніку курс літаратуры рассыпаецца на аўтаномна існуючыя манаграфічныя тэмы, якія ў сваю чаргу рассыпаюцца на асобныя творы. Цэнтруючая ідэя ў працы не адшукана, у сувязі з гэтым парушана гістарычная пераемнасць літаратурнага працэсу. Малюнак жанрава-стылявой эвалюцыі, станаўлення творчай індывідуальнасці, а, значыць, і эвалюцыя гістарычна інтэграванай самасвядомасці застаюцца па-за аўтарскай увагай. Зрэшты, так і павінна *было стацца: кожны з аўтараў выконваў сваё* заданне "адгэтуль—дагэтуль". Структурна-цэласнае адзінства школьнага падручніка немагчыма забяспечыць, калі няма выразнай канцэпцыі гісторыка-культурнага працэсу. Манаграфічныя тэмы павінны былі б адлюстроўваць ступені суб'ектывацыі і карціну жанрава-стылёвай эвалюцыі, але навукова-метадалагічнае кіраўніцтва пакуль што знаходзіцца на ўзроўні, якому недаступна разуменне крытэрыяў. У выніку разбурана агульная карціна інтэлектуалізацыі літаратурных формаў у 20-м стагоддзі, у прыватнасці — карціна станаўлення філасофскай і публіцыстычнай лірыкі. Творчасць Максіма Танка падаецца пасля творчасці Аркадзя Куляшова, проза Янкі Брыля — пасля прозы Івана Мележа, а Караткевіч ідзе пасля Хемінгуэя, Хемінгуэй — пасля Быкава. Рэальныя гісторыка-тыпалагічныя сувязі парушаны.

Зуёнак, Б. Сачанка, Г. Бураўкін, М. Рудкоўскі, Я. Сіпакоў, М. Стральцоў, Л. Дайнека, Я. Янішчыц, Н. Мацяш, Д. Бічэль-Загнетава, А. Дудараў...

У 10-м класе паглыблена вывучаюцца асновы гісторыі беларускай літаратуры, пачынаючы ад старажытных беларускіх летапісаў і заканчваючы літаратурным працэсам пасляваеннага часу. У 11-м класе вывучаецца беларуская літаратура ад другой паловы 50-х гадоў да яе сучаснага стану.

Як толькі наша праграма была надрукавана ў 1990 годзе ў часопісе "Беларуская мова і літаратура ў школе", Міністэрства адукацыі раіла яе настаўнікам у якасці паралельнай. Але рэальна гэты працэс пачаўся з 1995 года, калі пачалі выдавацца нашы падручнікі. Менавіта ад тае пары настаўнікі і вучні нашай дзяржавы займелі сапраўднае права выбару, па якой праграме вывучаць родную літаратуру — па праграме Нацыянальнага інстытута адукацыі пад рэдакцыяй М. Лазарука ці па праграме навуковага калектыву філалагічнага факультэта Брэсцкага універсітэта пад кіраўніцтвам В. Ляшук. Абедзве праграмы зацверджаны міністэрствам як паралельныя.

Заўважым, што ў цывілізаваных краінах, на якія нам хочацца быць падобнымі, можа быць больш чым дзве праграмы па адным прадмеце. Сёння ў нас па абедзвюх праграмах ствараюцца падручнікі, метадычныя распрацоўкі. Існаванне двух варыянтаў праграмы тым больш апраўдана і мэтазгодна, бо сёння ў нашай дзяржаве побач з агульнаадукацыйнымі школамі з'явіліся ліцэі, гімназіі...

Праграма мінскіх навукоўцаў прынцыпова адрозніваецца ад нашай, бо ў аснову яе пакладзена зусім іншая канцэпцыя — вывучаць літаратуру паводле катэгорый і паняццяў "стадыяльнае развіццё", "стыль", "метад", "літаратурны напрамак", "літаратурныя эпохі і іх эвалюцыя". Аднак апошнія гады з боку асобных сталічных калег робяцца настойлівыя спробы параўноўваць абедзве праграмы і, канешне ж, падкрэсліваць прагрэсіўны характар сваёй і "кансерватыўны" "так званай берасцейскай". Хоць, мне здаецца, яны настолькі розныя канцэптуальна, што іх нельга параўноўваць. Трэба аналізаваць, вывучаць адну і другую, даверыцца вопыту настаўнікаў-практыкаў, якія па іх працуюць. І, канечне ж, бачыць, калі яны ёсць, недахопы, даваць адно аднаму зычлівыя прафесійныя канструктыўныя заўвагі і прапановы, а не займацца разбуральным з'едлівым крытыканствам. У некаторых выступленнях у перыядычным настаўніцкім друку сам шаноўны Міхась Арсенавіч Лазарук і яго калегі спрабавалі паказваць перавагі сталічнай канцэпцыі літаратурнай адукацыі над "правінцыйнай берасцейскай". Мы выключна з этычных меркаванняў не выступалі ў друку ні з прапагандай сваёй праграмы і падручнікаў, ні з крытыкай навукова-метадычных набыткаў ці пралікаў нашых калег-апанентаў. Магчыма, што дарэмна. Бо кожнаму спецыялісту-філолагу, кожнаму настаўніку зразумела, што ніякая, нават самая лепшая базавая школа, ніякі, нават самы бліскучы настаўнік роднай літаратуры не ў стане забяспечыць вучням "цэласную літаратурную адукацыю". Яе, дарэчы, не ў стане і ўспрыняць большасць падлеткаў за рэдкім таленавітым выключэннем па прычыне ўзроставых псіхалагічных асаблівасцей. Немагчыма ды і непатрэбна, каб школьная праграма нагадвала спрошчаны, часам да прымітыву, універсітэцкі курс роднай літаратуры.

У большасці школ Еўропы, у тым ліку ў суседніх Украіне, Расіі, Польшчы, нацыянальныя літаратуры ў агульнаадукацыйных школах вывучаюцца традыцыйна, гэтаксама, як і ў нас на Беларусі, пачынаючы з XIX стагоддзя, у сярэднім звяне — асобныя мастацкія творы, аб'яднаныя па пэўных прынцыпах, у старэйшых класах — асновы гісторыі літаратуры і сучасны літаратурны працэс.

Шматлікія эксперты, рэцэнзенты нашых падручнікаў і праграмы, пераважна мінскія калегі, прыхільнікі канцэпцыі ці аўтары навуковага калектыву М. Лазарука настойліва навязваюць нам свае погляды на змест і структуру літаратурнай адукацыі, патрабуюць і ад нас "стадыяльнага" падыходу да школьнага курса роднай літаратуры. Але ж не класіцызмам, творамі якога, на жаль, не можа пахваліцца беларуская літаратура, а толькі выдатнымі пародыямі на гэты літаратурны напрамак, і нават не рамантызмам і рэалізмам запамінаюцца вучню ўрокі роднай літаратуры, а аповесцю Я. Брыля "Сірочы хлеб", аповесцямі М. Гарэцкага "Ціхая плынь" і "Дзве душы", творамі Купалы, Коласа, У. Караткевіча, В. Быкава, У. Жылкі, А. Гаруна, І. Пташнікава, Ф. Янкоўскага і многіх іншых.

Бясспрэчна, вучні, асабліва старшакласнікі, павінны мець уяўленне аб заканамернасцях і агульналітаратурных тэндэнцыях. Але ўрок літаратуры павінен быць перш за ўсё ўрокам высокага мастацкага слова; у аснове яго павінен ляжаць мастацкі твор і мастацкі вобраз, праз якія ўвасоблены непаўторны духоўны свет мастака, індывідуальны для кожнага пісьменніка творчы і жыццёвы вопыт.

Спадзяюся на ўвагу газеты творчай інтэлігенцыі, асабліва на зацікаўленыя адносіны пісьменнікаў да штучна створанай праблемы дзвюх праграм яшчэ і таму, што пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў ёсць педагагічная камісія, якая праявіла пасіўную цікавасць да існуючай сітуацыі. На яе пасяджэнні ў сакавіку 1998 года, дзе прысутнічалі шаноўныя Уладзімір Юрэвіч, Алесь Яскевіч, Міхась Тычына, Галіна Каржанеўская і некаторыя іншыя пісьменнікі, Аляксей Рагуля, пастаянны апанент і крытык берасцейскага калектыву і асабліва яго кіраўніка Веры Ляшук, амаль лаяўся. Ён абвінавáціў навукоўцаў Брэсцкага універсітэта ў тым, што "іх альтэрнатыўная праграма па беларускай літаратуры раскалола творчыя сілы", што гэта "не на карысць справе..." А далей працу сваіх калег А. Рагуля назваў "нефармалізаваным месівам", мову праграмы — "дубовай" і г. д.

Дзяржаўная камісія пры прэзідэнце па стварэнні новых праграм і падручнікаў чамусьці даручае шаноўным А. Рагулю ці В. Русілцы, якія з'яўляюцца стваральнікамі і сааўтарамі паралельнай праграмы і падручнікаў, рэцэнзаваць нашы. Цяжка ў такой сітуацыі разлічваць на аб'ектыўнасць і зычлівасць крытыкі. Хіба няма іншых вопытных спецыялістаў, філолагаў і метадыстаў ні ў Мінску, ні ў Гародні, ні ў Віцебску, ні ў Магілёве, ні ў Гомелі?..

Увогуле, вельмі б хацелася, каб для нашчадкаў XXI стагоддзя захаваліся тыя шматлікія рэцэнзіі і заключэнні на праграму і падручнікі. Многія рэцэнзенты не заўважаюць значнасці іх адукацыйна-выхаваўчага зместу, а засяроджана шукаюць недахопы. Адзін з такіх недахопаў, на думку членакарэспандэнта НАН А. Жураўскага, які з'яўляецца і членам Дзяржаўнай камісіі па падрыхтоўцы новых падручнікаў у грамадскагуманітарнай сферы, — перагружанасць. Так, моладзь, вучачыся па нашай праграме, можа пазнаёміцца з творамі, асобамі і лёсамі больш чым 90 беларускіх і іншых пісьменнікаў. Магчыма, і сапраўды "перагружаны" падручнікі, бо ў 30-я гады вучні "праходзілі" крышку больш за 10 аўтараў. Аднак ніколі, выступаючы перад настаўнікамі на навукова-практычных, метадычных канферэнцыях, у інстытутах удасканалення ў Брэсце, Гародні, Магілёве, на пасяджэннях метадычных секцый многіх раёнаў Брэсцкай вобласці, мы не чулі ад настаўнікаў-практыкаў выказванняў з занепакоенасцю на гэты конт. Мы перакананы, што моладзь павінна ведаць багацце і арыгінальнасць сваёй літаратуры.

Даводзіцца тлумачыць шаноўнаму А. Жураўскаму нашы адносіны да эмігранцкай літаратуры, якія яму здаліся "невыразнымі". У школьнай праграме засведчаны факт, што сапраўды ў 1944 годзе частка беларускіх пісьменнікаў эмігрыравала. І мы канстатуем факт пражывання вялікай дыяспары беларусаў за мяжой, у тым ліку і ў Польшчы. Мы ні ў якім разе не арыентуем настаўнікаў і вучняў на палітычныя, ідэалагічныя ацэнкі перыпетый асабістага жыцця беларускіх пісьменнікаў замежжа. Якраз у імя "захавання гістарычнай праўды, — аб чым, падказвае нам шаноўны рэцэнзент, гаварыў прэзідэнт А. Лукашэнка 2 ліпеня 1997 года на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным Дню Рэспублікі, — нам сёння неабходна адкінуць палітычную кан'юнктуру..." Менавіта на гэта, на аб'ектыўную ацэнку мастацкіх твораў арыентуе наша праграма. Дарэчы, па ініцыятыве "зверху" ананімных ідэалагічных цнатліўцаў з праграм па літаратуры школ Беларусі зніклі імёны і творы Л. Геніюш, Н. Арсенневай, М. Сяднёва.

Член-карэспандэнт НАН А. Жураўскі папракае нас у недасведчанасці, сцвярджаючы, што Мікола Гусоўскі — польскі, а не беларускі паэт, што ў пачатку XVI стагоддзя ніхто з беларусаў не пісаў свае творы на лаціне. Вымушаны не згадзіцца з шаноўным рэцэнзентам, бо гэта знаходзіцца ў супярэчнасці не толькі з нашай прафесійнасцю, але і з сучаснымі акадэмічнымі даследаваннямі і даўно прынятымі ў літаратуразнаўстве поглядамі.

Нашы нашчадкі звернуць увагу на супярэчлівасць многіх крытычных заўваг рэцэнзентаў. Адны патрабуюць у школьную праграму ўключаць больш твораў класікі, іншыя выказваюцца за шырэйшае ўвядзенне сучаснай літаратуры. Не палічылі слушнай мы заўвагу А. Жураўскага аб вывучэнні ў школе манаграфічнай тэмы "Пятро Глебка" па той прычыне, што многія творы гэтага пісьменніка сёння ўжо маюць гісторыка-літаратурнае значэнне.

Доктар філалагічных навук прафесар А. Падлужны здзівіў нас сцвярджэннем, што "да мастацкай літаратуры нельга адносіць летапісы, газеты "Мужыцкая праўда", прадмовы і пасляслоўі Скарыны, уступ да "Статута Вялікага княства Літоўскага". Відаць, гэта заўвага не нам, а акадэмічнаму літаратуразнаўству, дзе ўсё названае даследуецца як важкі набытак беларускага мастацкага слова. І вучні, да таго ж, павінны ведаць творы розных літаратурных родаў і жанраў. Гэты ж шаноўны рэцэнзент не прымае ў школьным чытанні такіх твораў, як "Пагоня" М. Багдановіча, "Маладая Беларусь" Я. Купалы. Ён жа задае нам пытанне: "Якія адносіны да літаратуры мае навуковая дзейнасць Я. Карскага, Б. Тарашкевіча, В. Ластоўскага і інш.?.. Далей сам удакладняе: "Праўда, Ластоўскі пісаў слабыя мастакія творы, Я. Карскі нейкім чынам судатыкаўся з фальклорам і літаратурай". Нам такія ацэнкі прафесара А. Падлужнага здаліся дзіўнымі. Гэтыя навукоўцы значна ўплывалі на культурна-гістарычнае жыццё свайго часу, без іх цяжка ўявіць літаратурны працэс пачатку XX стагоддзя. Шкадуем таксама, што Ф. Янкоўскі вядомы нашаму рэцэнзенту толькі як мовавед і невядомы як аўтар бліскучых абразкоў і апавяданняў...

Але, думаецца, найбольш уразіць нашых нашчадкаў у XXI стагоддзі, калі захаваецца ў аналах гісторыі літаратуры, "Рэцэнзія на хрэстаматыю "Родная літаратура" для 11 класа і падручнік "Родная літаратура" для 11 класа пад рэд. В. Ляшук" А. Рагулі. У гэтым арыгінальным дакуменце засведчана высокая эрудыцыя і палемічна-публіцыстычны запал аўтара, якія накіраваны перш за ўсё супраць "навукова-метадычнага кіраўніцтва", што "знаходзіцца на ўзроўні, якому недаступна разуменне крытэрыяў". Імкнучыся прынізіць "навукова-метадычнае кіраўніцтва" берасцейскіх навукоўцаў, гэта значыць В. Ляшук, прафесара, члена-карэспандэнта НАН, заслужанага работніка вышэйшай школы, аўтара больш за 200 навуковых публікацый, сярод якіх выданні манаграфічнага тыпу, падручнікі і праграмы для школ і ВНУ, шаноўны Аляксей Уладзіміравіч прыніжае і ўсіх нас, сваіх калег. Магчыма, "Рэцэнзіі" А. Рагулі будзе адведзена пачэснае месца ў музеі гісторыі літаратуры як узору беларускага навукова-інтэлігенцкага самаедства канца XX стагоддзя. А каб творчы запал, навуковую кваліфікацыю, усю эмацыянальна-інтэлектуальную энергію ды скіраваць у стваральнае рэчышча!.. Нас так мала, хто робіць агульную, вельмі ж патрэбную для нашчадкаў, для Беларусі справу...

Веру, што ў нашай дзяржаве будуць плённа працаваць і рэалізоўваць свае навуковыя літаратурна-метадычныя набыткі дзве школы: першая — мінская пад кіраўніцтвам М. Лазарука, другая — берасцейская пад кіраўніцтвам В. Ляшук. І гэта будзе істотна мацаваць нашу школу, нашу літаратуру і нашу будучыню.

**Зоя МЕЛЬНІКАВА,**
**кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускага літаратуразнаўства Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта**

---

Хрэстаматыя чамусьці пачынаецца з сучасных вершаў пра паэзію, але яны не адлюстроўваюць узровень сучаснай літаратурна-эстэтычнай думкі. Не ратуюць справу і два крытычныя артыкулы, якія ўведзены хутчэй з меркаванняў піетэту. На жаль, беларускае літаратуразнаўства часоў культу і застою не змагло ўзняцца да эстэтыка-філасофскіх абагульненняў у ціскаx вульгарызатарскіх псеўдатэорыяў. Эстэтычная праграма выкладзена ў творах пісьменніцкай публіцыстыкі і вершаваных трактатах, але іх няма ні ў хрэстаматыі, ні ў падручніку. Інтэлектуальны голад добра адчуваюць самі аўтары раздзелаў і спрабуюць кампенсаваць яго малазначнай інфармацыяй пра сямейныя справы творцаў. Аднак размовы пра шлюбы і нараджэнне дзяцей падаюцца на ўзроўні прафаннага мыслення. Не выратоўвае справу і казённая рыторыка ці ўяўная значнасць банальных разважанняў. Яны сустракаюцца ў многіх раздзелах, але найбольш характэрныя для раздзела "Пятрусь Броўка": "Дзяцінства ў памяці любога чалавека ўзнікае ў рамантычных фарбах, калі жывеш у роднай хаце, побач маці і бацька, вясковыя сябры, калі босыя ногі ведаюць кожны каменьчык на падворку. А яшчэ ранішнія спевы пеўняў, крыкі пастуха "Выганяй!", рыканне кароў і брэх сабак". Відаць, няма патрэбы тлумачыць, што падобная сублімацыя ў падручніку для 11-га класа з'яўляецца марнатраўствам.

Праграма, у адпаведнасці з якой напісаны падручнік для 11-га класа, адрозніваецца нізкім тэарэтыка-метадалагічным узроўнем. Змест тэарэтычных патрабаванняў зведзены да "паглыблення паняццяў": "пра выяўленчыя сродкі мовы", "аб вершы (рыфма, страфа)", "аб лірычным героі", "пра эпас (раман і яго віды)", "аб верлібры і асацыятыўнасці". Гэтыя патрабаванні, выказаныя ў занадта агульнай форме, з'яўляюцца толькі адпіскай. Сутнасць паглыблення паняцця, па ўсім відаць, вельмі цьмяна ўяўляецца аўтарамі праграмы, і таму ў падручніку, акрамя разважанняў пра асацыятыўнасць, няма нават і размовы пра "паглыбленне паняццяў". Горш, аднак, другое: падручнік не адлюстроўвае жанрава-стылёвую эвалюцыю беларускай літаратуры. Адметнасць беларускага літаратурнага працэсу ў другой палове 20-га стагоддзя ў тым, што ў гэты час у ёй замацаваліся стылёвыя формы, якія пачалі складвацца ў пачатку стагоддзя і ў 20-х гадах. Устаноўка на адлюстраванне працэсаў духоўнага станаўлення суб'екта гістарычнай творчасці заканамерна прывяла да крышталізацыі такіх жанрава-стылёвых формаў, як сацыяльна-філасофскі і палітычны раман, філасофская (медытатыўная) і публіцыстычная лірыка. Аналіз гэтых з'яў патрабуе адпаведнага кантэксту і фону — звароту да экзістэнцыяльнай праблематыкі і фенаменалогіі. Аднак такі падыход навуковым кіраўніком поўнасцю праігнараваны. У выніку выпаў з-пад увагі паказальны для нацыянальнага стылю кампанент — топас, які можна характарызаваць як праблему культурнай прасторы ва ўмовах татальнага крызісу. А гэта ў сваю чаргу прывяло і да таго, што знікла патрэба ў аналізе мастацкай сітуацыі, а, значыць, — і хранатопу наогул. У выніку працэс сэнсатворнай дзейнасці, якім і вызначаецца змест адраджэнскай культуры 20-га стагоддзя, — застаўся па-за падручнікам.

Метадычны апарат падручніка надзвычай прымітыўны. Да кожнай манаграфічнай тэмы прапануецца, па сутнасці, адно і тое ж заданне: "успомніце, з якімі творамі (імя рэд. — **А. Р.**) вы сустракаліся ў ранейшых класах". У канцы раздзела ці часткі яго ставіцца пытанне "як?" ці "якія?": "як праявіліся", "як змяніліся", "як вы разумееце", "якое месца належыць"? Такія і падобныя да іх заданні выключаюць першапачатковую ўмову абагульнення — ключавую сітуацыю, ключавы троп, характэрны тыпаж. Зрэшты, аўтары і не прэтэндуюць на абагульненне, спроба якога зроблена толькі ў тэме "Максім Танк". Пераважае паўзучы эмпірызм — доўгі і нудны пераказ зместу асобных твораў, паміж якімі праблематычная ўзаемасувязь не ўстаноўлена. Адсутнасць канцэптуальных ідэй, перагрузка другарадным матэрыялам, расцягнутасць банальных разважанняў павялічылі аб'ём падручніка звыш усялякай меры. Акрамя таго, структурна ён не адпавядае хрэстаматыі: першы і апошні раздзелы хрэстаматыі засталіся без увагі ў падручніку. Гэтая хіба павінна быць аднесена найперш на рахунак навукова-метадычнага кіраўніцтва калектыўнай працай.

Што да манаграфічных тэм, то перш за ўсё кідаецца ў вочы аўтаномнасць падачы іх — з'ява, якая супярэчыць самой прыродзе падручніка. Яны ўспрымаюцца не як часткі з кнігі для вучняў, а як асобныя тэмы аўтарскіх курсаў. У гэтай якасці трэба па праву ацаніць добры навуковы ўзровень такіх тэм, як "Уладзімір Караткевіч" (аўт. Г. Ішчанка), "Эрнест Хемінгуэй" (аўт. У. Лебедзеў), "Максім Танк" (аўт. А. Майсейчык), "Джон Стэйнбек" (аўт. М. Яніцкі), "Васіль Быкаў" (аўт. З. Мельнікава). У названых працах ёсць назіранні, якія адлюстроўваюць глыбінны змест пісьменніцкай канцэпцыі, але назіранні гэтыя недастаткова сканцэнтраваны і могуць застацца па-за ўвагай вучняў.

Асобай увагі заслугоўваюць аглядныя раздзелы ў школьным падручніку. На жаль, тут змешчаны толькі адзін — "Развіццё літаратуры ў другой палове 50—80-х (? — **А.Р.**) гадоў". Яго аўтар — вопытны літаратуразнавец А. Майсейчык. Напісаны артыкул у адпаведнасці з крытэрыямі, на якіх абапіралася гісторыка-літаратурная думка апошніх гадоў. Ні ацэнкі, ні крытэрыі не выклікаюць пярэчання, але некаторыя акцэнты варта было б памяняць. Ці абавязкова, напрыклад, сёння захоўваць без змен ацэнку рамана "Крыніцы" і адводзіць яму ролю лідэра ў абнаўленні літаратурнага працэсу? Прагрэсіўныя змены замацаваны са з'яўленнем новых канцэптуальных падыходаў да ваеннай і гістарычнай тэматыкі. І тут наватарскія рашэнні найперш належаць В. Быкаву, І. Мележу, У. Караткевічу. Няма, відаць, патрэбы вылучаць і некаторыя партыйныя пастановы, як гэта рабілася гадоў сорак назад. У школьным падручніку трэба даваць агульную ацэнку ідэйнаму кіраўніцтву і адзначыць вымушаныя манёўры бюракратыі ў сувязі з пачаткам духоўнага абуджэння нацыянальнай інтэлігенцыі. Акрамя таго, агляд па родах і жанрах мэтазгодна замяніць праблематычным падыходам: гэта вызваліла б аўтара ад празмерных падрабязнасцяў, падпарадкаванасці даследчыцкай думкі ў ладзе фактуры.

Тэма "Пятрусь Броўка" (аўт. У. Сенькавец) напісана з яўна перабольшаным захапленнем да асобы творцы, хоць спадчына П. Броўкі і не дае на гэта падстаў. Лепш было б гэты матэрыял змясціць у аглядзе. Раскрываючы тэму "Аркадзь Куляшоў", У. Сенькавец праз меру даверыўся вядомым успамінам дачкі паэта. Акрамя таго, неабходна перагледзець творы А. Куляшова для тэкстуальнага вывучэння ў 11 кл., не паддаючыся кан'юнктуры.

*(Працяг на стар. 12)*





## Вечарына ў Глыбокім

На месцы хутара Калеснікаў (Пліскі сельсавет Глыбоцкага раёна), дзе 115 гадоў таму нарадзіўся Вацлаў Ластоўскі, сёння стаіць прыгажун клён — здаецца, сама прырода парупілася пра тое, каб увекавечыць памяць пра гэтага празаіка, паэта, публіцыста, палітычнага дзеяча. Бо, на жаль, ні ў Глыбокім, ні ў Мінску няма помніка гэтаму, па словах Язэпа Янушкевіча, "неадменнаму сакратару Адраджэння", ні вуліцы з ягоным імем. Само прозвішча — Ластоўскі — сёння мала каму вядома.

І вечарына, праведзеная ў СШ N 3 горада Глыбокага сябрамі Глыбоцка-Полацкай філіі Віцебскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў, лягла, магчыма, першым (хай сабе маленькім) каменем у падмурак будучага помніка В. Ластоўскаму на ягонай малой радзіме.

Перад інтэлігенцыяй горада, перад вучнямі выступілі Уладзімір Арлоў, які перадаў мясцовай бібліятэцы кнігу "Жыватворны сімвал Бацькаўшчыны" (гісторыя крыжа святой Еўфрасінні, дарэчы, упершыню знойдзенага В. Ластоўскім), сябры філіі Галіна Варатынская, Марыя Баравік, Тамаш Ляшонак, Віталь Гарановіч, Уладзімір Савуліч, маладыя літаратары Прыдзвіння Ірына Дарафейчук з Полацка (яна падрыхтавала цудоўную літаратурна-музычную кампазіцыю па творах В. Ластоўскага), Мяледзі Кукуць (Шаркоўшчына), Юрась Касцюк (Наваполацк), Ганна Пяткевіч (Глыбокае) і многія іншыя.

Мясцовыя газеты "Веснік Глыбоччыны" і "Вольнае Глыбокае" (незалежнае выданне) выйшлі ў свет з матэрыяламі, прысвечанымі В. Ластоўскаму.

Алесь ЖЫГУНОЎ

## На ніве нашага адраджэння

У дваццатыя гады, калі набылі размах працэсы нацыянальнага Адраджэння, на Беларусі, як вядома, адкрываліся вышэйшыя навучальныя ўстановы, школы, выдавецтвы, тэатры. Для гэтага патрабаваліся высокакваліфікаваныя кадры. Іх запрашалі з многіх рэгіёнаў краіны.

Так, у 1922 годзе ў Мінску апынуўся і прафесар Іван Замоцін, якому была прапанавана кафедра рускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Да гэтага Іван Іванавіч набыў вялікую вядомасць. Скончыўшы ў 1897 годзе аддзяленне гісторыі славеснасці Пецярбургскага гісторыка-філалагічнага інстытута, працаваў настаўнікам у гімназіі ў Варшаве, Пецярбурзе, быў прыват-дацэнтам Варшаўскага універсітэта, а потым Пецярбургскага. З 1908 года з'яўляўся прафесарам Варшаўскага, у 1917—1922 гадах — Данскога універсітэтаў.

У Мінску І. Замоцін адразу ж актыўна далучыўся да тых працэсаў, якія адбываліся на Беларусі. Па-сапраўднаму зацікавіўся беларускай літаратурай, пачаў вывучаць беларускую мову. Крытыка-біяграфічны нарыс І. Замоціна "М. Багдановіч", які спачатку друкаваўся ў часопісе "Узвышша" (1927, NN 2, 3, 5), стаў першай манаграфіяй пра жыццёвы і творчы шлях класіка нашай літаратуры. Даследаваў І. Замоцін таксама творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, Ц. Гартнага, П. Глебкі, К. Крапівы і іншых беларускіх пісьменнікаў.

На жаль, далёка не ўсё было апублікавана. Для прыкладу, у свой час так і не прыйшлі да чытача артыкулы "Аб новых рукапісах В. Дуніна-Марцінкевіча" і "Літаратурная спадчына А. Б. Петрашкевіча".

І. Замоціна не мінуў скрушны лёс многіх лепшых прадстаўнікоў інтэлігенцыі. 4 красавіка 1938 года Івана Іванавіча арыштавалі, а 5 жніўня таго ж года прысудзілі да васьмі гадоў зняволення. Накіравалі ў Комі, а пасля перавялі ў адзін з лагераў каля горада Горкага, дзе І. Замоцін і памёр 25 мая 1942 года.

Адзначаючы 125 гадоў з дня нараджэння гэтага выдатнага вучонага і чалавека, нельга яшчэ раз не падкрэсліць, што І. Замоцін сваім жыццём і дзейнасцю паказвае, як прадстаўнікі іншых народаў павінны ставіцца да беларусаў. З павагай да нацыянальнага ўкладу жыцця. З павагай да нашай мовы. З павагай да нашай культуры.

ПАЭЗІЯ

Віктар ГАРДЗЕЙ



## З кнігі лірыкі "Межань"

### Шлях бярозы

*У міжбор'і, дзе гэтулькі дзіў,*
*Беларусь, ты падобна красою*
*На бярозу, што Бог пасадзіў*
*І паліў вельмі горкай вадою.*

*Не прыціх бы ў самоце мой дом*
*І хмызняк не запоўз бы на ніву,*
*Ды атруты нячысцік тайком*
*Сыпануў у ваду для паліву.*

*Папытайце ў ссівелых людзей,*
*Перад светам і небам сумленных:*
*Сок бярозавы быў саладзей,*
*Чым цяпер, у гаях даваенных.*

*У падзей ракавых не наўзбоч*
*Перад новым якім ліхалеццем*
*Ты, бяроза, у страшную ноч*
*Зашумела павісным веццем?*

*Шлях Радзімы на ружы вятроў*
*Не прарок, а бяроста прадкажа —*
*То чырвоная ўранку, бы кроў,*
*То счарнелая ўвечар, бы сажа.*

●

*Хандра ці роспач гэтак тузане —*
*І жыць няўцям, і спавядацца горка.*
*Гляджу ў акно: не свеціцца ў акне*
*Надзеі лепшай родавая зорка.*

*Яна ж дзесь ёсць, як дах над галавой,*
*Няхай сабе і цесныя "хрушчобы",*
*Сярод якіх у немаце глухой*
*Мне сёння адзінота даспадобы.*

*Сябе я дакараю, а не вас,*
*Мае сябры, чый спогад прыкмячаю.*
*Тут праклянеш і нараджэння час,*
*І будзеш выць з пакуты і адчаю.*

*Пра лепшае не думай і не мар:*
*Ёсць боскі шлях у лёсе невядомым,*
*І мноства зорак зззяе паміж хмар,*
*Ды беспрасвет над анямелым домам.*

●

*З тых мясцін, што сняцца ўсё радзей,*
*Дзе не моўкнуць сосны-самагуды,*
*Далятаюць галасы людзей,*
*Ды яны ўжо не завуць нікуды.*

*Чую смех чужы і чыйсьці ўздых.*
*Чую дзесьці слабы гул авацый.*
*Галасы і мёртвых, і жывых —*
*Гэта, пэўна, знак галюцынацый.*

*Галасы знаёмых і сяброў.*
*Галасы між мрояў і рэалій.*
*Так далёка я ад іх зайшоў,*
*Нават дзіўна: як і адшукалі?*

*Галасы адрозніць не паспеў,*
*Хоць іх слухаў многа зім і вёсен,*
*Бо пачуўся і матулін спеў*
*У журботным перагудзе сосен.*

●

*Начаваў пад кустом ды ў ковеце*
*І віном ды табакай прапах.*
*Колькі год марнаваўся на свеце,*
*Не відаць па змакрэлых вачах.*

*Як жылося бярозе з сасною —*
*Расказала пра ўсё абалонь.*
*Мне ж нягоды халоднай расою*
*Незаўважна апырскалі скронь.*

*Шлях павісне над голаю кручай,*
*І буран, як і вечнасць назад,*
*Сыпане ў вочы соллю пякучай*
*І заслоніць слязой далягляд.*

*Б'е пярун, толькі я не ўздыхаю,*
*Бо люблю, ненавідзячы, свет,*
*Дзе няма пад кустом болей раю*
*І дажджом залівае ковет.*

●

*На строме лета кветак*
*болей жоўтых —*
*Самоты колер, мучыць ён мяне,*
*І ўжо няма і следу міражоў тых,*
*Якія ў светлай мроіцца вясне.*

*Там, у садах, ад квецені бухматых,*
*Шчаслівы быў я, нібы навасёл,*
*І блізу ў снах пабудаваннай хаты*
*Крыляў душы расхрыстаны анёл.*

*Я ў ёй не жыў, у хаце снежна-белай,*
*Яна сплыла, як прывід, у начах.*
*Без кветак сініх далеч знелюбела —*
*Адны скрозь жаўтацветы на грудах.*

*Няхай цвітуць — усё адно раздзета*
*Самота дрэў, і між прыціхлых ніў*
*Знікаюць мроі, хоць на строме лета*
*Шкада мне хату, што вясной сасніў.*

### Хлебныя зарніцы

*Зарніцы ў жыце лашчацца і ціха*
*Грамы гуляюць дзесьці самапасам.*
*У гэты міг душа, што знала ліха,*
*Гатова зліцца з вечнасцю і часам.*

*Шалеюць сполахі над нівай з краю,*
*Цякуць хвіліны, каб застацца ў зерні.*
*Іду ў сутонь і проста назіраю*
*Нябесных сіл таемны бляск вячэрні.*

*Адтуль, з вякоў, чуваць, як мелюць жорны.*
*Хай будзе хлеб! І чыстыя крыніцы!*
*Відаць, таму начамі ў жнівень зорны*
*Аж да відна трывожацца зарніцы.*

●

*Нешта даўняе шукаю —*
*Дзень мінуў і век міне.*
*Два вузлы русалка з краю*
*Завязала ў жыце мне.*

*Быць вясёлым і шчаслівым,*
*Пад канём і на кані.*
*Плакаць часта ў хвалях нівы —*
*Лёс, аднак, свой не кляні.*

*Развязаць спрабую змалку*
*Вузел першы і другі.*
*Яснавокую русалку*
*Не разгледзець з-за смугі.*

*Поўны скрушных чараў далі,*
*Дзе хаджу, зусім не злы.*
*Жыта зжалі, жыта зжалі —*
*Засталіся два вузлы.*

●

*Не пілігрым — шукальнік ісцін божых,*
*Але і я займеў вандроўны чын,*
*Хаця ў натоўпе стомленых прахожых*
*Бадзяцца марна мне стае прычын.*

*Як падлічыць — то пройдзена нямнога.*
*Як без маны — то небагата нёс.*
*Заве кудысь душа, мая нябога,*
*Гудзе натоўп гасцінцам да нябёс.*

*Нібы гракоў на ніве разаранай,*
*Мінулых дзён я спудзіў чараду,*
*Шукаючы чагосьці апантана,*
*Хоць ведама: нічога це знайду.*

Алег САЛТУК



## "Пад любым позіркам тваім..."

### Памяць

*Мама бульбу садзіла*
*І кароўку даіла.*
*Грады мама палола,*
*Потым жыта малола.*
*Мы ж яшчэ падрасталі,*
*Але ёй памагалі.*
*Мама песні спявала,*
*Мама лён выбірала.*
*Звонка песня лунала*
*І ў душу западала.*
*Мама грэла, гарэла,*
*Хоць сама і хварэла.*
*Мамы болей няма*
*І наўкола — зіма.*
*Перасохла крынічка.*
*Спапялілася знічка.*

### Вінаватая

*Раджае п'яніца-жанчына,*
*І завіхаюцца ўрачы,*
*Якія ўсё зрабіць павінны,*
*Каб гэты жыцці зберагчы.*

*...Крычы, каб чулі і ў палатах,*
*Крычы да самазабыцця,*
*Крычы, што ты не вінавата*
*У беспрасветнасці жыцця.*

*Бо не было другога выйсця —*
*Ані работы, ні жытла.*
*Ты проста не магла не выйсці*
*На сцежку, ў бездань што вяла.*

*Цябе нуворышы паілі*
*За бель грудзей, сінечу воч.*
*Яны цябе тады любілі*
*Толькі на ноч,*
*Толькі на ноч!*

*Дык хто ж сягоння вінаваты,*
*Што ёсць паны і жабракі?*
*Я праклінаю век праклятых*
*На ўсе астатнія вякі.*

### Настрой

*Плыве няўлоўны пах*
*Траў скошаных і кветак.*
*Вузей ужо абсяг*
*І карацей лета.*

*Ды зноў каля ракі*
*Накіну, як бывала,*
*На стан твой трапяткі*
*З туману пакрывала.*

*Сагрэешся ў руках*
*Маіх сягоння ўся ты.*
*Над намі Млечны Шлях —*
*Наш дах з табой і хата.*

### Жаданне

*А я хачу, каб ты была*
*Са мной сягоння і заўсёды...*
*Глядзяць у вырай з-пад крыла*
*Крыклівых птушак карагоды.*

*Які абсяг,*
*Якая даль,*
*Які прастор і адзінота!*
*Табе аддаў і ты аддай*
*Сваёй мне крышачку пяшчоты.*

*З табой я ўсё ў жыцці змагу,*
*Ты толькі вер, ты толькі ведай,*
*Што боль вазьму твой і тугу,*
*Твае няшчасці ўсе і беды.*

*Абы шчаслівай ты была,*
*Абы табе хапала сілы,*
*Абы не ведала ты зла,*
*Абы жыццё цябе любіла.*

*Аддай свой боль, яму ў маім*
*Да скону быць наканавана...*
*Найсветлай зоркай нам дваім*
*Гарыць світанак апантана.*

### Пытанні

*Дзе мне знайсці спакой душэўны,*
*Як мне на гэты свет глядзець,*
*Што звар'яцеў зусім, напэўна,*
*І прадаўжае вар'яцець?*

*Дзе мне знайсці такія сілы,*
*Якія б памагчы змаглі,*
*Каб набрыдзь ногі не насіла*
*Па беларускае зямлі?*

*Не крала б і не рабавала*
*Наш край пакутны і народ,*
*Каб за даляр не прадавала*
*Яго і кроў, і боль, і пот?*

*І так усё ўжо расцягнулі.*
*Няўжо і мову прарадзім?*
*І за яе ж хадзіў пад кулі*
*Мой бацька.*
*І не ён адзін...*

### Вузел

*Вузлом я звязаны смяротным*
*З усім на матчынай зямлі.*
*Мне ўсё даўно тут стала родным,*
*Адсюль дзяды мае пайшлі.*

*Адсюль і я пайшоў памалу*
*З вачыма, поўнымі святла,*
*З душой, што ўсё ў сябе ўбірала,*
*А потым роспачна стагнала,*
*Пакуль найправедней была.*

*Пакуль я крочыў ад парога,*
*То мята пахла, то палын.*
*Пражыў нямала, зведаў многа,*
*Усяму жывому брат і сын.*

*Мяне заўсёды прывячалі*
*Магутны дуб і васілёк,*
*І расчынялі мне тут далі*
*Аж сто вятроў на сто дарог.*

*Мне тут усё, усё жадана,*
*Навек тут стала ўсё маім.*

*Няхай з дажджу, няхай з марознай стыні,*
*Мільгнецца крыж —*
*мяжы зыходнай стоўп.*
*Магілы там — сусветныя святыні,*
*І праглынуты вечнасцю натоўп.*

●

*На ўзмежжы верасня і жніўня*
*Яшчэ святлом яснеюць дні,*
*Калі пасля грымотных ліўняў,*
*Дыміць ралля ўдалечыні.*

*Напэўна, песня недапета*
*У жураўлінай чарадзе.*
*Яшчэ і бабінае лета*
*Самотнай пражы не прадзе.*

*Рунеюць поля аксаміты,*
*Якія я люблю змала.*
*Ужо з лугоў, імглой спавітых,*
*На верасы ляціць пчала.*

*Лясы густая засціць морац*
*І дзікі голуб закрычыць.*
*Яшчэ і жнівень ласку дорыць,*
*Ужо і верасень гарчыць.*

*Вунь, мабыць, ластаўкай нясмелай*
*Мая трапечацца любоў.*
*Вось толькі сэрца адбалела,*
*Ды пачынае тузаць зноў.*

*Каліна сочыцца пяшчотай,*
*І чырвань — быццам з-пад ляза,*
*І апячэ, ужо не ўпотай,*
*Шчаку асенняя сляза.*

●

*Не трэба ў восені сырой*
*Кідаць зямныя справы.*
*Пасецца блізка за гарой*
*Табун мяцеліц жвавы.*

*Па снезе мокрым, па слаце,*
*Ці сыты, ці галодны,*
*Куды мяне ні пашляце,*
*Вярнуся ў кут зыходны.*

*Далёка бачыцца з гары*
*Пейзаж, імглой працяты:*
*І бор задуманы стары,*
*І згорбленыя хаты.*

*Няхай не ўзрымсціцца бядзе*
*Часінаю ліхою.*
*Няхай адчай мой прападзе*
*За шэраю гарою.*

*Яшчэ сцякуць з парваных струн*
*Акорды позняй нівы,*
*Пакуль у далечах табун*
*Праскача белагрывы.*

---

*І зноў жыву я апантана,*
*І зажываюць мае раны*
*Пад любым позіркам тваім.*

## З усмешкаю і слязой

*Нябёсамі змалку свячоны,*
*Жыву на грахоўнай зямлі,*
*Якую любіць мне да скону,*
*Што б там пра яе ні плялі.*

*Люблю я купальскія ночы,*
*Зарніцы паганскіх кастроў,*
*Твае таямнічыя вочы,*
*Вянок залатых валасоў.*

*Шчаслівы?*
*Напэўна, шчаслівы,*
*Хоць крыж і нялёгкі нясу,*
*Сваю даспяляючы ніву*
*І свой прытуляючы сум.*

*І будзе да самага скону*
*З усмешкаю ўсё і слязой,*
*Бо небам далёкім свячоны*
*І блізкай зямлёю сваёй.*

## Прадлістападаўскае

*Дажджом сцякаюць на зямлю аблокі,*
*А потым наплываюць туманы*
*І засцілаюць нізкія аблогі*
*Аж да лясной, зялёнай стараны.*

*І хоць яшчэ Купалле не забыта,*
*Не звязана апошняга вязьма,*
*Я зразумеў, што лета ўжо пражыта,*
*Што дождж ідзе так часта нездарма.*

*Хаця яшчэ і кветкі раскашуюць,*
*І ўецца шпарка лёгкі матылёк,*
*Ды ўжо душа задумлівая чуе,*
*Што лістапад не так ужо й далёк.*

*І ўчора я падгледзеў яшчэ зранку,*
*Хоць гэтага нікольки не хацеў:*
*Пад спеў дажджу і ветра калыханку*
*З галінкі першы лісцік адляцеў.*

*І нечага шкада цяпер да болю.*
*Каханая, ты чуеш, як шкада!..*
*Дажджы стаяць над лесам і над полем.*
*Няхай стаяць —*
*З табою — не бяда.*

ПРОЗА

# ПЛЯЖ

Юры СТАНКЕВІЧ



***Прапануючы ўрывак з невялікага (па заходніх мерках) рамана "Любіць ноч — права пацукоў", хацеў бы патлумачыць, што не імкнуўся акцэнтаваць увагу менавіта на асобнай праблеме, але трэба было сказаць гэта, хаця атрымалася, на мой погляд, не ў поўнай меры. Тэкст рукапісу адмаўляліся набіраць нават блізкія мне людзі, і якраз не з-за адхіленняў у форме, а, быццам, з-за "афарбаванасці ў чорнае" і "неадпаведнасці", але даводзілася назіраць з'явы нашмат больш невытлумачальныя звычайнай логікай, якія маюць месца ў рэальнасці нашага падзення. Спадзяюся, што здолеў зрабіць гэты твор, які аддаў у часопіс "Крыніца", па магчымасці акрэсленым, рэалістычным і аптымістычным (нават з хэпі-энд), хаця пайшоў у гэтым насуперак сабе.***

**АЎТАР**

...раніцай мужчына накарміў даўнёнка, дастаў сваю старую пластыкавую вуду, паклаў у кішэнь хлеба, узяў хлопчыкавы коўдрачку і ручнік і, як абяцаў, павёў таго на пляж, дзе было яшчэ пуста, пляж увогуле быў у заняпадзе, бо рака мяняла тут рэчышча і падмывала бераг насупраць, і ўжо можна было прадбачыць лёс груvasткага і безгустоўнага катэджа, пабудаванага гады два таму метраў за сорак ад берага, а цяпер, прыкінуў Даніла Прусак, да вады засталося ўжо метраў дваццаць пяць, а потым думкі яго зноў вярнуліся ў звыклае раздарожжа апошніх падзей, а даўнёнак гаварыў

Карым, ратуй! дапамажыце!

але тыя раўнадушна глядзелі, пакуль урэшце голы Сярожа ўцягнуў яе ў раку, на глыбіню, і абодва паплылі, мацюкаючыся і адплёўваючыся, прычым стрыжаны ўпарта плыў на спіне, дэманструючы сябе спераду, і ўрэшце вылезлі на бераг — дзяўчына пабегла за машыну і сцягнула там спадніцу і кашулю, застаўшыся ў майтках, бо ліфчыка на ёй не было, а стрыжаны Сярожа раптам падышоў да таго месца, дзе сядзеў Даніла Прусак, і сказаў

я вытруся

але мужчына не зразумеў, пра што тлумачыць голы Сярожа, і, сціснуўшы скіі голас не слухаўся яго, у горле быццам засела вялікая, вострая стрэмка, ад якой пульсаваў боль, і мужчына спусціўся да вады, намачыў у ёй ручнік і прыклаў да шыі і стаяў так, а даўнёнак гаварыў

рыбарыбарыба

а Вольга-Алеся лашчыла яго галаву невялікай бруднай далонёй і хвалявалася

мне страшна, Даніл, не хадзі

зноў лашчыла даўнёнка, — пазногці на пальцах былі чорныя, і казала

бедненькі

і гнула сваё

нехадзінехадзінехадзі

але мужчына кінуў на траву ручнік і абарваў

рыбарыбарыба

але тут Даніла Прусак убачыў адзінокую жаночую постаць на беразе з паўхвіліны хады ад іх і пазнаў Алесю, гарадскую юродку, якая сядзела падкурчыўшы ногі, глядзела ў ваду і паліла, а побач тырчэла ў неба рыльца бутэлькі, і мужчына адвёў хлопчыка ў супрацьлеглы бок, каб тая не прычапілася з пустой размовай, пасцяліў даўнёнку на траву коўдру, дапамог таму распранупца і распрануўся сам, адчуваючы, як прыемна заказытала босыя ногі трава — пахла мятай — яе роўныя, зялёныя пруткі ў перамешку з аерам выторкваліся з зямлі спускаючыся да вады — рака бязгучна спяшалася далей пад стромкім берагам насупраць, і даўнёнак адразу знайшоў сабе занятак: пачаў корпацца ў пяску і часам уваходзіў у ваду па калені і гаварыў, назіраючы малявак і верхаводак

рыбарыбарыба

а мужчына выкапаў чарвяка і закінуў вуду — проста так, зусім не спадзеючыся спаймаць, і лёг на траву, адчуваючы, як святло сонца пяшчотна гарачыць і падпальвае скуру на спіне і нагах, і доўга ляжаў так, назіраючы за даўнёнкам, і амаль фізічна адчуваючы, як замаруджваецца бег часу, пакуль урэшце гук матора не вывеў яго з гэтага стану: доўгі шэры "мерсэдэс" старога выпуску разварочваўся прама на пляжы і спыніўся метраў за дваццаць, ляснулі дзверцы, і разам з гукамі папсы адтуль вылезлі трое: адзін, пэўна, з месцовых, вышэйсярэдняга росту з рэльефнымі біцэпсамі, коратка стрыжаны, і з ім двое чужынцаў таго ж тыпу, што жылі ў фралоўскім доме, а можа, нават, і з тых самых, быццам бежанцаў, адзначыў Даніла Прусак, — усе нападпітку, а потым з машыны хіхікаючы з'явілася яшчэ адна асоба — дзяўчына гадоў дваццаці з цыгарэтай у руцэ і бутэлькай віна ў другой, і, пахіснуўшыся, села на траву, а мясцовы закрычаў

купацца! хто са мной, маць вашу так!

і здзёр з сябе спартыўныя штаны, куртку, а потым і трусы, застаўся голы, разагнаўся і спрытна нырцануў з берага ў плынь ракі, а двое яго сябрукоў загаманілі пасвойму і знялі толькі кашулі, застаўшыся на беразе, між тым як голы мацак з рэзкімі выкрыкамі сплываў па рэчцы ўсё бліжэй і ўрэшце праплыў побач з паплаўком вуды Данілы Прусака, быццам не заўважыўшы ні яго, ні вуды, а даўнёнак адразу перастаў капацца ў пяску і насцярожана, як звярок, які пачуў небяспеку, узіраўся ў чужынцаў, а той крычаў

скачыце і вы, внатуры, не пашкадуеце!

і плыў на спіне, выторкваючы геніталіі, і крычаў

маць яго, так і гэтак!

а потым вылез на бераг і пацягнуў у ваду дзяўчыну, глынуўшы з яе бутэлькі, а тая роблена вішчэла

Сярожанька, не трэба! ай, бля, не хачу!

і хіхікала і зноў выкручвалася і крычала, звяртаючыся да тых, дваіх віцы, заўважыў

ты б менш крычаў, дзіцё напалохаеш

а той тым часам падчапіў з зямлі хлопчыкаву коўдру і ручнік і пачаў выціраць імі спачатку галаву і плечы, а потым жывот і геніталіі, але Даніла Прусак ужо ўскочыў на ногі і тузануў коўдру з рук нахаба

думай, што робіш, ублюдак, гэта ж дзіцячыя рэчы!

скрозь зубы вырвалася ў яго, а Сярожа раптам усміхнуўся ўжо зусім цвяроза і прашыпеў яму ў твар

што, не падабаецца, лох? я табе не падабаюся, так? ты нас не любіш, так?

і нечаканна імгненна нанёс удар нагой, які прыйшоўся ў горла мужчыны, той пахіснуўся, ледзь не ўпаў і знерухомеў ад болю і шоку, бо не чакаў такой падлянкі, а голы Сярожа кінуў на траву пакамячаныя коўдру і ручнік і, гучна рыгнуўшы, пайшоў да сваіх, адкуль неўзабаве пачуліся дзявочы віск, лаянка, а потым усё гэта заглушыла музыка ад уключанага на поўную магутнасць магнітафона, а Даніла Прусак сутаргава зглынуў і адчуў, як горла апёк боль, а даўнёнак, пэўна, нічога не бачыў, бо ўдар быў спрактыкаваны і маланкавы, ва ўсякім разе мужчына спадзяваўся на тое, што малы не бачыў, і спусціўся да вады, дзе ляжала вуда, і сеў там, а даўнёнак падбег да яго і сказаў трывожна

Даня

а потым успомніў і заладзіў

псіхі грэбаныя

і зноў

псіхіпсіхіпсіхі

а Даніла Прусак патрос галавой і прыхінуў таго да сябе — гаварыць ён не мог, толькі згодна кіўнуў, супакойваючы дзіця, і сядзеў так хвілін пятнаццаць, а потым стаў складваць вуду, калена за каленам — адно ў адно, пакуль уся яна не зменшылася да даўжыні локця, надзеў зверху пластыкавы каўпачок і пачаў аглядаць наваколле, пакуль не заўважыў удалечыні кропку — постаць Алесі — тая ўсё яшчэ самотна сядзела на беразе, і сказаў, хутчэй прасіпеў, даўнёнку

ну, пойдзем сходзім вунь да той цёткі

і, сабраўшы яго рэчы, узяў хлопчыка за руку і павёў да жанчыны, ішоў марудна, часта спыняючыся, а калі наблізіўся, вымавіў з цяжкасцю

прывет, Волечка

сапраўднае яе імя было Вольга, а тая сказала

я ўсё бачыла, Даніл

вока ў яе было вострае, і мужчына зноў адзначыў гэта сам сабе, а яе папрасіў

ты з хлопчыкам пабудзь, зрабі ласку, а я схаджу, пагавару

але жанчына кінула недакурак і з жахам аспрэчыла

ты што, Даніл, не заводзься, яны ж заб'юць цябе

а той адказаў сіпата

не бойся, я загавораны

і Алеся-Вольга спытала дурнавата

дзе?

а той пажартаваў

у дзяржстраху, на кругленькую суму

змоўкні, Вольга, а то сапраўды прагаворыш

і вырашыў

ты пагуляй тут з хлопчыкам пакуль, а я зараз схаджу, разбяруся, бачыш, нас зняважылі

і дадаў, звяртаючыся да малога

пабудзеш з цёцяй Вольгай

і пайшоў, зацісНуўшы ў руцэ пластыкавы цяжар вуды і паступова набліжаючыся да машыны, адкуль усё гэтак жа гучэла рэзкая музыка, але галасоў ён не чуў, а калі падышоў бліжэй, са здзіўленнем убачыў, што ўсе спяць — зусім голая дзяўчына ў салоне, адкуль патыхнула потам і спермай — спадніца яе і майткі сушыліся на капоце, двое чужынцаў у цяньку на посцілцы за машынай, а накачаны, мускулісты Сярожа, які ўжо быў у трусах — проста на траве: усіх, пэўна, змарылі хуткацечны секс, сонца і выпіўка, і Даніла Прусак пасунуўся бліжэй, схіліўся над галавой стрыжанага і, размахнуўшыся, з усёй сілай апусціў таму на горла цяжкаватую пластыкавую вуду і ўбачыў, як той захрыпеў, пукацячы каламутныя цёмныя вочы, а потым ударыў яшчэ раз, па кадыку, і стрыжаны Сярожа засоўгаў нагамі і зашкроб зямлю, а мужчына кінуў вуду ў раку і пайшоў назад, дзе яго ўжо чакаў устрывожаны даўнёнак, узяў дзіця за руку, а Алеся таропка абувала парусінавыя падраныя тапачкі і гаварыла

я нічога не бачыла, я пайду

а Даніла Прусак падумаў і сказаў

і добра зробіш, Волечка

і павёў даўнёнка па сцежцы, якая вяла праз пляж, выйшаў з ім у завулак, а потым на вуліцу, рукі ў яго ўсё яшчэ дрыжэлі, а хлопчык смуткаваў

мамамамамамама

і мужчына зайшоў з ім у краму, а потым паіў квасам і выпіў сам цэлы бакал, пасля чаго абодва рушылі дадому, але яшчэ здалёк Даніла Прусак прыкмеціў у канцы іх завулка міліцэйскі "уазік" і сцяўся — няўжо яны так хутка па яго прыехалі, і што там пасля адбылося на пляжы, ліхаманкава меркаваў ён, з тым "эксгібіцыяністам" Сярожам, але пакрочыў далей, трымаючы за руку даўнёнка, і ўбачыў, як з фралоўскага дома, пад воклічы жанчын, міліцыянты праз брамку выцягвалі збітага Кліма Фралова, а той лаяўся і вышчэрваў у крыку шырокі і вузкагубы, запэцканы крывёю рот, так што былі бачныя мноства жалезных каронак, — падышоў бліжэй, і тут Клім пазнаў яго і выкрыкнуў, раздзіраючы адной рукой кашулю на грудзях

не вер ім, Даніла, я не забіваў!

а мужчына спытаў, пакуль двое ў зялёнай форме — так званыя "агуркі" — закручвалі таму рукі і надзявалі наручнікі

ты пра што, Клім?

а той закрычаў

сястры тваёй, Любы, не забіваў! ведай гэта, а то табе навешаюць цяпер!

і тут яго ўпіхнулі ў машыну, дзверцы зачыніліся і варанок ад'ехаў.









яўрэі ні тут, ні там не знайшлі, і мы пацярпелі чарговае паражэнне па прычынах матэрыяльных.

Калі паспрабаваць суаднесці творчасць І. Басава з вядомымі еўрапейскімі накірункамі ў жывапісе, то ўмоўна можна абазначыць яе як "кубістычны экспрэсіянізм" — геаметрызацыя форм, дэкаратыўнасць гучання колеру, сілуэтнасць малюнка. Яго жывапісная прастора лёгка распластоўваецца на палатне, аб'ёмы, быццам спрасаваныя, трансфармуюцца ў арнаментальна распрацаваныя плоскасці. За жывапіснай стыхіяй матыў змястоўны адкрываецца не раптам, а паступова, як абрысы прадметаў у тумане.

Пэўна, адным з самых шчаслівых у яго творчым жыцці быў 1993 год — год яго 75-годдзя. Яго ўбачыла Масква, яго чакаў Іерусалім, ён быў поўны спадзяванняў і апантана працаваў. Можна было толькі здзіўляцца таму, як з надыходам старасці маладзела, ачышчалася, прасвятлялася яго палітра. Больш пластычным і грацыёзным рабіўся сілуэт. Песня-крык ператвараецца ў танец-усмешку.

Незадоўга да адыходу мы з ім гутарылі аб маючай адбыцца выставе ў Іерусаліме. "Ведаеце, у мяне столькі планаў, столькі задум, і я нават адчуваю, што ёсць сілы іх ажыццявіць, толькі вось стаць бы да мальберта. Напэўна, гэта і ёсць другое дыханне?"

...Настаў 1994 год — апошні ў ягоным жыцці. А танец-усмешка застаўся ў 1993 — апошнім у яго творчасці.

**Ларыса ФІНКЕЛЬШТЭЙН,**
**мастацтвазнаўца,**
**арт-дырэктар галерэі "Брама"**

ВЫСТАВЫ

# Дуэт талентаў

Адразу дзве персанальныя выставы паказвае аматарам выяўленчага мастацтва Светлагорская карцінная галерэя "Традыцыя" імя Г. Пранішнікава. І калі з творчасцю акадэміка жывапісу БелАВМ Уладзіміра Зінкевіча светлагорцы ўжо добра знаёмы (ён выстаўляўся тут яшчэ ў 1996 годзе), то для яго жонкі — мастачкі Валянціны Сідаравай — гэта ў поўным сэнсе дэбют. Так ужо здарылася, што яна прадстаўляла свае творы ў розных галерэях за мяжою і амаль не выстаўлялася ў сябе на радзіме. І вось ці не ўпершыню сабраныя разам, у адной зале, яны засведчылі яе прафесійнасць. Зрэшты, гэта было відавочна і па таленавітых ілюстрацыях да кніг беларускіх народных казак. Яе малюнкі не проста ілюструюць, яны ўвасабляюць тое, што знаходзіцца за межамі тэксту, ствараючы новую казачную рэальнасць. І невыпадкова многія, здавалася б, толькі кніжныя малюнкі, сталі самайстойнымі творамі выяўленчага мастацтва. Ёсць такія і на гэтай выставе. Скажам, партрэт героя беларускай народнай казкі "Кот Максім" набыў Нацыянальны мастацкі музей. Такую ж самастойную мастацкую вартасць набылі і іншыя яе ілюстрацыі да яшчэ адной беларускай народнай казкі "Залатое пяро", да папулярнай кнігі польскага пісьменніка Януша Корчака "Караль Мацюш".

В. Сідараву звыкла лічаць графікам. Але выяўленчыя сродкі, якімі яна карыстаецца, нязвыклыя для графікаў. Мы бачым не каларыт, а подых каларыту. Часам застаецца ўражанне, што мастачка малюе... паветрам. Яе творы трэба не толькі глядзець, але разглядваць, бо асацыятыўнасць іх вельмі багатая і таксама затоеная. Трапяткім зззяннем прасякнуты твор "Святло ў лесе". Мастачка лёгка пераадольвае абмежаванасць таго ці іншага жанру. "Лясная прагулка напярэдадні Каляд" не проста партрэт дзяўчынкі, але і казачны зімовы краявід, у якім прадчуванне свята. Яшчэ адзін прыгожы партрэт дзяўчынкі В. Сідарава мела ўсе падставы назваць "Каларыт канца зімы", бо для яе галоўнае менавіта блакітна-сінявы паветраны каларыт адыходзячай зімы.

В. Сідарава ставіць перад сабой надзвычай складаныя пейзажныя задачы. Яны адчувальны ў саміх назвах твораў: "Цёплае святло ў час зімовых халадоў", "Сон на крыллях", "Каштаны ў пейзажы", "Палаючыя шышкі", "Рыба-возера". А тое, што яна заўжды дасягае пастаўленых перад сабою мастацкіх мэтаў, гаворыць аб яе вялікіх патэнцыяльных магчымасцях.

Я, вядома, не мог не задаць некалькі пытанняў нашаму земляку Уладзіміру Зінкевічу. Як ставіцца ён да сумеснай выставы з жонкай?

— Гэта наша першая сумесная выстава на радзіме. Што ж датычыцца Валіных работ, то яны вельмі загадкавыя. Асабіста я не разумею, як яны напісаны. Творы ў нас па духу вельмі блізкія, а па рамястве — розныя. Але яны не спрачаюцца паміж сабою, а сцвярджаюць адно і тое ж: спрадвечную прыгажосць і мудрасць жыцця... Што ж датычыцца маёй выставы, то яе нельга параўноўваць з нядаўняй, якая адбылася ў Мінску, у галерэі "Мастацтва". Спецыфіка залы, адведзенай мне ў Светлагорску, такая, што карціны глядзяцца асабліва цэласна, — гаворыць Уладзімір Леанідавіч.

І гэта сапраўды так. Адносная шчыльнасць размяшчэння экспазіцыі яго твораў паспрыяла таму, што пэўная фрагментарнасць некаторых з іх нібыта знікла. Карціны вельмі хораша дапаўняюць адна адну — і танальнасцю каларыту, і філасофскім сэнсам. Даўно заўважана, што жывапіс У. Зінкевіча адлюстроўвае і тое, што не падуладна вымярэнню, што знаходзіцца ў сферы пачуццяў, а не ў пэўнай рэчаіснасці. Гэта і высвечвае паэтычную аснову нярэдка звычайных рэчаў. Менавіта так здарылася, у прыватнасці, з трыпціхам "Майстэрня". Ведаю, што папярэдняя назва цыкла гэтых твораў была іншая — "Рэстаўрацыя". Мастак звяртае нашу ўвагу на рэчы, якія, што называецца, аджылі сваё, адслужылі. Аднак яны захоўваюць у сабе нешта значна большае, чым іх побытавае прызначэнне.



Асабіста мне заўжды здавалася, што карціны У. Зінкевіча быццам ствараюцца нанова ў мяне на вачах. Нават самыя знаёмыя з іх раптам пачынаюць здзіўляць чымсьці незаўважаным раней. Яны надзвычай рэальныя ("Зімовае вакно", "Падарожжа вялікай рыбіны", "Рыцарскі турнір"), псіхалагічна-настраёвыя ("Вечар", "Святло ў лесе", "Ранішні лес"), калі загадкавым здаецца і навальнічнае неба, і штармавое мора, і начны птах, які ўсё яшчэ змагаецца з уладарнымі хмарамі, з узлятаючай вадой ("Начны птах").

Новыя творы У. Зінкевіча сцвярджаюць яго вернасць самому сабе. Мы зноў пазнаем яго і ў "Музе", і ў "Люстэрку", і ў "Святле далёкіх гор". Ад выставы да выставы мастак усё больш выразна выяўляе вернасць свайму творчаму шляху.

Дуэт талентаў даў выдатны плён — выставу твораў Валянціны Сідаравай і Уладзіміра Зінкевіча. Светлагорцам сёння могуць пазайздросціць многія аматары выяўленчага мастацтва.

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ**

*На здымку: Валянціна СІДАРАВА і Уладзімір ЗІНКЕВІЧ на адкрыцці выставы сваіх твораў у Светлагорску.*
*Фота В. СТРЫБУКА*

# Ажывае пад рукамі шкло

Ёсць выставы, якія запамінаюцца надоўга. Ёсць мастакі, творы якіх зачароўваюць, здзіўляюць незвычайнасцю задумы, абуджаюць фантазію. З імі хочацца сустракацца зноў і зноў.

Выстава мастакоў і майстроў Бярозаўскага шклозавода "Нёман" экспанавалася ў Лідскай мастацкай галерэі ў 1997 г. Былі прадстаўлены вырабы са шкла, што тыражуюцца ў вытворчасці, а таксама аўтарскія працы, у якіх — пошукі стылістычных напрамкаў, новых фармальных і тэхналагічных магчымасцей.

Выстава запомнілася. Я зноў і зноў згадваю яе. І не толькі таму, што яна атрымалася прэстыжнай. Многія прадстаўленыя творы адзначаны міжнароднымі прэміямі на шматлікіх выставах і кірмашах у Ябланцы-на-Нісе, Празе, Берліне, Мадрыдзе, Маскве, Ленінградзе. Кожны ўдзельнік выставы варты ўвагі, кожны меркаваў паказаць гледачам шкло ва ўсім багацці яго магчымасцей, як матэрыял для вялікага мастацтва. Ад часу вынаходніцтва шкла прайшло амаль чатыры тысячы гадоў, але і зараз ідзе працэс удасканалення працэсу стварэння і знешняга выгляду вырабу з гэтага матэрыялу. На сённяшні дзень мастацкае шкло з'яўляецца вядучым відам дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва Беларусі.

Хочацца згадаць адну з удзельніц гэтай выставы мастачку Галіну Сідарэвіч. У 1978г. яна скончыла БДТМІ (кафедру шкла). Каб мець рэальную магчымасць займацца любімай працай, згаджаецца працаваць мастакомафарміцелем на шклозаводзе "Нёман". Там распачынае свае першыя эксперыменты са шклом: заплаўляе ў тоўшчу шкла разнастайныя "нешкляныя" рэчы (шклотканіну, металічныя ўключэнні), спрабуе фарбаваць шкло хімічнымі спалучэннямі. Усё гэта дапамагло ёй ствараць пластычныя кампазіцыі, блізкія да станковага жывапісу. З 1983 г. Г. Сідарэвіч працуе ўжо ў эксперыментальна-мастацкім аддзеле як мастак шкла. І адразу прыйшоў поспех — пасля з'яўлення на выставе кампазіцыі "Цішыня", якая была закуплена Дзяржаўным мастацкім музеем, а ў 1985 г. адзначана сярэбраным медалём ВДНГ у Маскве. Аўтарская тэхніка, якую мастачка стала потым ужываць ва ўсіх працах ("Салёны вецер", "Курганы", "Мора", "Эдэм", "Віно з дзьмухаўцоў"), была абаронена на Усесаюзным мастацка-тэхналагічным савеце ў Маскве.



Тэхніка гэта — тэхніка ліцця (у формы ці без формаў) з украпленнямі ў шкло нешкляных элементаў, што дае графічны эфект. У якасці жывапіснага сродку выкарыстоўваюцца фарбавальнікі. Падчас хімічнай рэакцыі шкло запаўняецца кропелькамі паветра і ўзнікае трэці мастацкі элемент: паветраная прастора, асяроддзе.

Фантазіі мастачкі — самыя розныя. Яны могуць уяўляць пласты адвольнай формы ("Курганы", "Мора"), мець адпаведную форму ("Цішыня", "Салёны вецер"), у тоўшчы якіх змешчаны графічна-жывапісныя кампазіцыі. Тут мае сэнс і сама форма пласта, і тое, што знаходзіцца ў шкле. У кампазіцыях-пейзажах Г. Сідарэвіч выкарыстоўвае, напрыклад, стылізаваныя прыродныя формы: трава, птушкі, коні і іншае.

Шкло можа імітаваць розныя рэчы — кераміку, парцэляну, камяні. Але ніводны матэрыял не мае такога бляску, празрыстасці, напоўненасці святлом, здольнасці гарманізаваць з паветраным асяроддзем. Менавіта гэтыя якасці шкла выкарыстоўвае Г. Сідарэвіч. Яна лічыць, што са шклом трэба абыходзіцца вельмі беражліва, каб не загубіць цудоўнае, што ёсць у гэтым матэрыяле. А сам працэс вырабу параўноўвае з джазавымі кампазіцыямі. За некалькі хвілін яна мусіць паспець намаляваць у шкле, напрыклад, пейзаж. У выніку — дзвюх ідэнтычных рэчаў не бывае.

Аўтарскія працы Г. Сідарэвіч маюць адметную вытанчанасць стылю. Яе творы напоўнены паэтычнасцю і рамантычнасцю.

Вельмі адухоўленая яе вядомая кампазіцыя "Віно з дзьмухаўцоў", падказаная аднайменнай аповесцю Рэя Брэдберы. На доўгіх сцяблінках — шары-дзьмухаўцы, напоўненыя кропелькамі расы-паветра. Мастачка перадала ўражанні дзяцінства: стан спакою, бязвоблачнасці, чысціні, адчуванне лета, напоўненага водарам кветак.

Паспяхова выкарыстоўвае мастачка пластычныя і аптычныя якасці шкла ў кампазіцыі "Кветкі". Яе кветкі — не натуралістычныя прыродныя формы, а пластычнае гучанне прыгажосці.

Г. Сідарэвіч — сябра Саюза мастакоў Беларусі. Яе творы экспанаваліся на выставах у Гародні, Мінску, Маскве, Шаўляях, Бялградзе, Познані, Стакгольме і іншых гарадах. Яе вырабы карыстаюцца попытам у рэспубліцы, з поспехам экспартуюцца ў Германію, Галандыю, Грэцыю, іншыя краіны Еўропы. Творы яе захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, у краязнаўчых музеях Гародні, Смаленска, Пінска, у прыватных замежных зборах.

Г. Сідарэвіч прымала ўдзел у стварэнні аб'ёмна-дэкаратыўных кампазіцый у музеі М. Багдановіча, у піянерскім лагеры "Брыганціна", нядаўна выканала дэкаратыўную агароджу для пасольства Беларусі ў Вільні.



Хочацца пажадаць Галіне Сідарэвіч новых адкрыццяў "цудаў у шкле".

**Ларыса ДРАКО**

*На здымках: мастачка Галіна Сідарэвіч. Кампазіцыя "Салёны вецер"*
*г. Ліда*

сонца, рэкі і горы, статуі і карціны і г. д., і г. д. Тут корань ідэалізму ў знакава-сімвалічным варыянце. Так што калі зыходзіць з індывідуальнага вопыту.., то ідэалізм непазбежны". Але ж ці зыходзіць сапраўдны паэт з чагосьці іншага, як не з індывідуальнага вопыту пазнання, у сэрцавіне якога — уласныя ўзаемадачыненні з Богам?

І сапраўды, у гэтым Купала багацей за многіх ягоных і паплечнікаў, і паслядоўнікаў:

***І ты глядзіш на гэта ўсё, і неба***
***Твае маўчыць, як падзямелля мур;***
***Мальбы няшчасных: долі, праўды, хлеба!***
***Ты глух паняць, паслаць маланкі бур.***

***Паймі! пачуй!***
***Сон наш і свой стрывожы, —***
***Закон і суд свой праведны пашлі!..***
***Вярні нам Бацькаўшчыну нашу, Божа,***
***Калі ты Цар і неба, і зямлі!***

Паэт бунтуе, паэт ставіць свае ўмовы Богу, быццам той евангельскі д'ябал, які спакушае Хрыста: "К а л і ты сын Божы, скажы, каб каменне гэтае сталася хлябамі", забываючыся на тое, што сказана: "Не спакушай Госпада Свайго". Разам з тым, ставячы ўмовы, Купала не выказвае аніякіх сумненняў у самім існаванні Бога: не "калі Ты — *ёсць*", але: "калі Ты — *цар*", г. зн. справа ідзе пра абмежаваныя ці неабмежаваныя магчымасці Уладара. Уласнанародныя магчымасці, лічыць паэт, "вярнуць Бацькаўшчыну" тут недастатковыя, і вінаваты перш за ўсё сам народ, які "*упаў, забыўся*, як Бацькаўшчыну, як яго завуць...". Безумоўна, што ў даным кантэксце слова "ўпаў" ужываецца ў тым жа самым сэнсе, у якім яно ўжываецца і ў Бібліі. Толькі ці ж можа не ўпасці народ, калі ягоныя дочкі — русалкі, калі ён разам з імі "сумуе сум русальчыных багоў" (К. Сваяк)?

***Як там русалкі — твае дзеці —***
***Днём аддыхаюць у жальбе,***
***Каб ночкай, блудзячы па свеце,***
***Шукаці долю для цябе.***

Вось ён, кошт тваёй долі, кошт вяртання Бацькаўшчыны: аддай сваіх дзяцей-русалак, адмоўся ад іхняе маці, з якой калісьці злучыўся ты не таму, што крыўдавала, а таму, што ч а р а в а л а! І зачаравала не толькі сваёй прыгажосцю, але і сваёй спагадай і рэальнай дапамогай, "шуканнем долі для цябе", пакуль ты, мужычок, спіш. Як жа можна было адмовіцца ад іх мужычку, як жа можна было адмовіцца ад іх адраджэнцу, як жа можна было паводле М. Новікавай, "не ганарыцца сваёй першастыхіяй — паганствам, калі ў ім — твая даўніна, твая роўнасць у крузе іншых, старэйшых еўрапейскіх народаў, і адначасова твая культурная унікальнасць?" Ці ж былі гэтыя адраджэнскія спадзяванні і надзеі марнымі? Не, калі мы ўспомнім пра тое, што Адраджэнне ў Заходняй Еўропе таксама ўключала ў сябе адраджэнне еўрапейскіх культурных каранёў — старажытнагрэчаскай і старажытнарымскай культур, якія былі, як вядома, паганскімі. На Беларусі ў той час культурныя карані шыроканароднай мас таксама былі паганскімі, і таму, адраджаючыся, натуральна было думаць пра тое і прымаць захады дзеля таго, каб рашуча скінуць путы (і без таго слабыя) хрысціянства, путы веры, каб стаць "сярод роўных" еўрапейскіх народаў, якія збольшага даўно ўжо пайшлі і прайшлі шлях дэсакралізацыі.

Аднак складанасць сітуацыі, у якой апынуліся беларускія адраджэнцы, заключалася ў тым, што еўрапейскія народы с п а ч а т к у ўмацавалі падмуркі сваёй хрысціянскай свядомасці, а ўжо потым, рукамі Галілея, Бруна і К$^{0}$, пачалі падкопваць іх і крышыць. Беларускія масы збегам абставін пакрылі сваю свядомасць вельмі тонкім хрысціянскім слоем (успомнім тут і сведчанні К. Сваяка, і ягоныя ўласнаручныя сачыненні калядак, бо фальклорных не ставала, і вядомую працу А. Багдановіча "Пережитки древнего миросозерцания среди белорусов"), у той час калі паганскія карані былі моцнымі і разгалінаванымі. У гэтым сэнсе нашы перспектывы стаць у 20-ым стагоддзі "сярод роўных" выглядалі бліскучымі. Але ў такім выпадку незразумелымі заставаліся мэты і задачы адраджэнцаў: як можна было адраджаць ж ы в о е, тое, ш т о і н е п а м і р а л а? Натуральна ў такім выпадку зрабіць выснову, што адраджацца павінна было б нешта іншае, ледзьве дыхаючае, заняпаўшае, развіваецца — недаразвітае. Адраджацца павінна была б хрысціянская, а не паганская свядомасць, і ў гэтым нам бачыцца самае глыбіннае разыходжанне паміж заходнееўрапейскім і беларускім варыянтамі Адраджэння. Але ўскладвалася гісторыяй гэтая задача на плечы тых, чыя хрысціянская свядомасць, на жаль, заняпала. Нашы адраджэнцы былі дзецьмі свайго крызіснага для хрысціянства часу, яны былі дзецьмі свайго ў п а ў ш а г а народа.

Адсюль — безвыходны трагізм адраджэнскага становішча, калі рэлігійная свядомасць раздвойваецца, калі змагаюцца дзве праўды, і ніводная не саступае свайго месца. Адсюль — сваякоўскі крык: "...Божа, не дазволь мне блюзніць!" Адсюль — ерэтычны гонар жылкаўскага альбігойца: "А можа, блюзнерства даруеш? А мо..."

І сапраўды, ці ж блюзнерства — ахвяраваць сабою дзеля народнага шчасця:

***Усемагутны! Вось сэрца паэты —***
***За народ твой крывіцкі ахвяра!***
*(У. Жылка)*

Ахвяраваць — і ведаць, што Бог патрабуе не ахвяр, але міласці і любові, любові, якая *ўжо* падзелена гэтым самым сэрцам напалам: "Пі палову майго кахання, Астатняе я..." (У. Караткевіч, праз дзесяцігоддзі).

Шукаць у н а ч ы долю, а ў д з е н ь спадзявацца на закон і праведны Боскі суд, папракаць Бога за Ягонае маўчанне ў адказ на "пот, кроў і слёзы" роднага народа, і адначасова ведаць, што ў п а ў ш а м у няма на што спадзявацца, няма чаго чакаць:

***...А жывыя...***
***Як мерцвякоў пагляд іх і жыццё,***
***Праклёны толькі шэпчуць векавыя,***
***Ды вечнае чакаюць небыццё.***

Гэты верш Купала напісаў не ў 1905—1910 гадах; ён напісаны ў канцы 1918 года, калі ўжо і рэвалюцыя адбылася, і абвешчана была БНР. І сапраўды, чаго іншага можа чакаць упаўшы народ, калі ён не навучыўся (*яго* не навучылі) весці агульнанацыянальны, агульнанародны *дыялог* з Богам, які і з'яўляецца сэнсам і сутнасцю гісторыі кожнага еўрапейскага народа? Тады, сапраўды, "мэта — ... няўжо небыццё"?! (К. Сваяк).

У будучым — небыццё, у сучаснасці — таксама, у мінуўшчыне — тое ж самае:

***Небыцця мінуўшчыны***
***Тройчы раз зракаюся!***

Адкуль у Жылкі такая ўпэўненасць? Відаць, карані яе трэба шукаць у сучасным паэту духу вульгарнага матэрыялізму, калі для вымярэння і ацэнкі гістарычнага мінулага прапаноўваўся адзіны крытэрый: узровень сялянскага жыцця, перш за ўсё матэрыяльны. Логіка тут была "жалезная": пакольki сяляне "не жылі, як жывуць людзі, гасцінцам шчасця не хадзілі" (Купала), значыць, і жыцця не было, але, адначасова — не было і б ы ц ц я, бо не быў народ суб'ектам гістарычнага працэсу, а толькі ягоным аб'ектам, бо "пот, слёзы і кроў" — гэта не г о л а с. Хто ж вінаваты? Тыя, хто

***Узносілі муры,***
***Каб княжыці ў мурах;***
***Ад зоркі да зары***
***Купаліся ў ігрох,***

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***Салодкі мёд пілі,***
***Жыць солодка было,***
***З а б ы л і  а д ы л і,***
***Ш т о  й н а к ш  ж ы л о  с я л о.***

Звернем увагу: Купала гаворыць: яны — з а б ы л і, а народ — у п а ў, з а б ы ў с я. Яны забылі, але ж*не ўпалі*, і значыць, жылі, і значыць, былі:

***...І выходзіць між дрэў***
***у патаемную вечара пору***
***Князь апошні Літвы,***
***ў хвалях гаснучых гібкага свету.***

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***І чакае, пакуль не засмужыцца***
***ноч над ракою,***
***Над вадой пабялеўшай***
***прытуляцца сонныя мары***
***І ў празрыстай імгле паплывуць***
***лебядзі чарадою,***
***А над іскрамі росаў прабліснe***
***апранка Барбары...***

Аўтар гэтага дзіўнага, гарманічнага верша "Верасьнёвае пано", як бачым, не падзяляе сваіх герояў на паноў і народ, каб потым, спасылаючыся на ягонага, народа, цяжкае жыццё, зрабіць выснову, што і гэтага нічога не было — ні Бернардынскай прысады, ні апошняга князя, ні атручанае Барбары. Яны былі — гаворыць нам Ігнат Канчэўскі, і гэтыя стагоддзі хрысціянства, перарваўшыя паганскія ланцугі, і былі гэтыя героі, нашчадкі якіх за віны продкаў расплаціліся напоўніцу. Быў упаўшы і нічога не забыўшы народ. Але былі і яны — п а д у п а ў ш ы я адраджэнцы ("Я — падупаўшы Рым...", М. Багдановіч), не ўпаўшыя цалкам і нічога не забыўшыя, утварыўшыя новыя віны, хаваючыя "тугу аб высокім" і ў гэтай тузе сканаўшыя. У асобе Ігната Абдзіраловіча на "кроўю збрызганых палянах" (Я. Купала), як нам падаецца, яны здолелі адшукаць выйсце, не знойдзенае ў паэзіі, той адвечны шлях, на якім нікому не цесна. Шлях еўрапейскі, хрысціянскі, на якім не губляецца "лица необщее выраженье".

**Таццяна АНДРЭЙЧАНКА**

ПАМЯЦЬ

# Так рана...



25 кастрычніка Нацыянальны акадэмічны тэатр балета пакажа два аднаактовыя спектаклі — "Карміна Бурана" і "Кармэн-сюіта". Яны прысвечаны светлай памяці Аляксандра Аляксандравіча Смалянскага, педагога-рэпетытара, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь.

Ён памёр сёлета, у верасні. Гэтая жалобная вестка ўразіла, здалася недарэчнай і нават абсурднай. Хаця ўвогуле — ці не заўсёды абсурдная смерць? Сан Саныч, як яго любоўна называлі многія артысты ў тэатры, заўсёды здаваўся ўвасабленнем рэдкай добразычлівасці, дзівоснай душэўнай далікатнасці і тактоўнасці. Таго стваральнага пачатку, які супрацьстаіць і цемры, і разбурэнню, і небыццю.

У 1964 годзе ён пачаў працаваць у нашай акадэмічнай балетнай трупе як педагог-рэпетытар. І з радасцю, асалодай, найвялікшым творчым задавальненнем быў ім на працягу трох з паловай дзесяцігоддзяў. Народная артыстка Беларусі Людміла Бржазоўская згадвала адночы, што калі раніцою Смалянскі ўваходзіў у рэпетыцыйную залу, артысты сустракалі яго апладысментамі. Знакаміты Асаф Месэрэр, народны артыст СССР, педагог класа ўдасканалення Вялікага тэатра ў Маскве, лічыў Аляксандра Аляксандравіча цудоўным рэпетытарам, выдатным педагогам. Сапраўды, многіх прывабілівала атмасфера інтэлігентна-тонкага і жыццярадаснага прафесіяналізму, здольнасць падтрымаць тую жыватворную аўру, у якой так разнявіцца, так утульна пачуваe сябе талент...

Праз ягоны клас прайшлі некалькі пакаленняў балетных артыстаў — ад "зорак" нашага балета 60-х гадоў да "зорак" цяперашніх. 60-ыя, 70-ыя, 80-ыя, 90-ыя гады... Многія балерыны і танцоўшчыкі нашай акадэмічнай трупы свае партыі ў спектаклях рабілі менавіта са Смалянскім.

Агульнавядома, што акцёр — істота тонкая, далікатная, часам празмерна крыўдлівая, празмерна самалюбівая. Здольнасць знаходзіць мову з артыстамі зусім рознымі, павярнуць да сябе, знайсці чарадзейны ключык да індывідуальнасці, — гэтымі якасцямі Сан Саныч быў надзелены ў вышэйшай ступені. І калі вёў ранішнія ўрокі, і калі быў загадчыкам трупы, і калі рэпеціраваў з вядучымі салістамі, і калі ў апошнія гады рэпеціраваў выключна з кардэбалетам.

Памятаю, з якім захапленнем і з якой любоўю казаў ён заўсёды пра сваю прафесію. Пра тое, што рэпетытар павінен быць і псіхолагам, і педагогам, што ён павінен быць перш за ўсё мудрым, шукаць кантакт з артыстам, у нечым саступіць і дапамагчы... Памятаю, з якім гонарам згадваў словы айчынных і замежных крытыкаў, якія сцвярджалі, што кардэбалет нашага тэатра працуе як ансамбль салістаў, што такі кардэбалет можна і трэба параўноўваць з кардэбалетам пецярбургскага Марыінскага тэатра, які, вядома, многія гады з'яўляўся эталонам стылю і чысціні формы.

Сам Смалянскі лічыў, што ягонае творчае жыццё склалася шчасліва, бо ён меў магчымасць працаваць з многімі буйнымі харэографамі — Р. Захаравым, А. Месэрэрам, І. Бельскім, С. Дрэчыным, А. Вінаградавым. Бо ён удзельнічаў у працэсе стварэння многіх нацыянальных спектакляў, пачынаючы ад "Выбранніцы" (канец 60-х гадоў) да нядаўніх "Страсцей". Бо на ягоных вачах нараджаліся многія елізар'еўскія спектаклі, якім апладзіравалі потым у многіх краінах свету. У высокім прэстыжы беларускага балета - заслуга многіх. Бо нястомная, карпатлівая праца педагога-рэпетытара супрацьстаіць паступоваму разбурэнню, заўчаснай смерці спектакля як мастацкага арганізма.

Жыццёвы досвед робіць з цягам часу істотныя карэктывы ў звыклай іерархіі каштоўнасцей. І неаспрэчна пераконвае, што непараўнальна большага захаплення заслугоўвае талент, паяднаны з чалавечай мудрасцю, маральнай трываласцю і душэўнай высакароднасцю, чым талент сам па сабе — без нібыта і непатрэбных "дадаткаў", якія празмерна ўскладняюць жыццё.

Існуе прынцыповая, кардынальная розніца паміж тым, хто любіць мастацтва ў сабе, і тым, хто любіць сябе ў мастацтве Смалянскі належыў да першых.

Як жа яго будзе не хапаць! І ягонай усмешкі, і ягонай добразычлівасці, і заўсёднай настроенасці на субяседніка. І ягонага прафесіяналізму.

Эх, Сан Саныч... Навошта ж вы так рана?..

**Таццяна МУШЫНСКАЯ**

*На здымку: Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ, Аляксандр СМАЛЯНСКІ, Таццяна ЯРШОВА і Аляксандр МАРТЫНАЎ на рэпетыцыі. 1986 г.*

# Стаў ахвярай беззаконня

Міхась Багун пайшоў у вечнасць у 30-гадовым узросце. А зараз яму магло б быць дзевяноста. Нарадзіўся ён (сапраўднае прозвішча Блошкін) 8 лістапада 1908 года ў Мінску. У 1928 годзе скончыў курсы пры Беларускім педагагічным тэхнікуме, настаўнічаў у вёсцы Рожна цяперашняга Лепельскага раёна. У 1931 годзе стаў супрацоўнікам рэдакцыі газеты "Чырвоная змена", у 1932—1936 гадах працаваў у Дзяржаўным выдавецтве БССР і ў рэдакцыі "ЛіМа". Рэпрэсаваlі ў 1936-м. Па адных звестках, М. Багун памёр 17 лютага 1938 года, па другіх — у снежні 1937-га.

З першым вершам выступіў у 1925 годзе ў газеце "Беларуская вёска". Выдаў кнігі паэзіі "Рэха бур" (1931) і "Рэвалюцыі" (1932), пераклаў на беларускую мову раманы Л. Первамайскага "Ваколіцы" (разам з З. Астапенкам), Ф. Панфёрава "Брускі" (з Т. Кляшторным), М. Астроўскага "Як гартавалася сталь", асобныя творы А. Пушкіна, У. Маякоўскага, Э. Багрыцкага і іншых пісьменнікаў. Асобныя вершы М. Багуна былі пакладзены на музыку.

Найбольш поўна яго мастакоўская спадчына прадстаўлена ў кнізе "Выбранае", выдадзенай у 1961 годзе.

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь выказвае спачуванне галоўнаму рэжысёру Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа БАРКОЎСКАМУ Віталю Міхайлавічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**

**Калектыў выкладчыкаў Беларускай акадэміі мастацтваў глыбока смуткуе з прычыны смерці выкладчыка акадэміі, вядомага беларускага мастацтвазнаўца, педагога Генадзя САКАЛОВА-КУБАЯ і выказвае спачуванне сям'і і блізкім нябожчыка.**

ДУША

# Пакуль ёсць беларусы на зямлі

Памяць вымагае клопату... Кожнае адлічанае стукам крыві ў скронях імгненне становіцца гісторыяй, у якой нічога не змяніць, не перапыніць. Гісторыю свайго народа не проста трэба памятаць і добра ведаць, яе ўрокі мусяць абуджаць розум нашчадкаў, даваць надзею і натхняць у жыцці.

У дзень свайго нараджэння беларускі нацыянальны творчы цэнтр "Вытокі", што ўжо больш як тры гады дзейнічае ў віцебскай вучэльні N 46, прымаў у сябе самых славутых людзей нашай зямлі. Тых, хто жыццём сваім уславіў Беларусь ва ўсім свеце. Уявіце сабе: былі тут князь Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага Гедымін, гуманіст і філосаф, першадрукар зямлі беларускай Францішак Скарына, галоўны канцлер Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега, найвышэйшы гетман Януш Радзівіл, князёўна Полацкая Рагнеда, змагар за справядлівасць і свабоду роднага краю Кастусь Каліноўскі, святая заступніца Еўфрасіння Полацкая, біскуп Віленскі Валяр'ян Пратасевіч, знакаміты віцебскі этнограф і фалькларыст Мікалай Нікіфароўскі...

Героі розных часоў сабраліся разам, нібыта пачуўшы покліч свайго народа. Гістарычныя постаці, слынныя асобы... Да іх узнёслых думак заклікалі прыслухацца стваральнікі свята, арганізаванага для навучэнцаў кіраўніком цэнтра "Вытокі" Святланай Ляўковіч і яе старэйшай дачкой Ганнай.

Нішто не маўчыць для таго, хто навучаны слухаць...

І выходзіў вялікі Гедымін, пра якога ў народзе ходзяць легенды:

*Утаймоўваў крыжакаў*
*ён, розныя плямёны,*
*У Гедыміна ўрад быў*
*мудры, добрыя законы,*
*Быў ён грозны ды гатовы*
*да суседняй згоды,*
*"Не хачу, — казаў, —*
*каб марна кроў*
*лілі народы".*
*Каб усе былі такія,*
*што сядзяць на троне,*
*На зямлі, крывёй палітай,*
*быў бы мір па сёння!*

І казаў Гедымін:

**— Цяжка мне, браці, чорныя думкі кружаць, як чорныя птушкі, над маёй галавой. Цяжка мне ад таго, што не магу знайсці спакою, гледзячы з вышыні нябёсаў на тое, як жывуць людзі на беларускай зямлі... Няўжо ў трывозе, як у попеле шэрым, згіне іскра надзеі і веры? Няўжо пад кнеямі свежымі, над залітымі крывёю межамі будзе каркаць толькі крумкач? Я — Гедымін — Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага хачу параіцца з вамі, што мы можам зрабіць, каб дапамагчы нашай Радзіме, нашай мове. Каб моладзь памятала заўсёды, адкуль яе род, шанавала сваіх продкаў, ганарылася сваёй гісторыяй, якая ні ў якім разе не горшая, чым у любой другой краіне. Дзе вы, беларусы? Дзе вы, слаўныя змагары за свабоду, за родную зямлю? Няўжо я ніколі не пачую прыгожы спеў дзяўчат, ласкавую, шчырую беларускую мову? Няўжо ўсё адыдзе ў нябыт? Няўжо ўсё дарма?**

Вітаў Гедымін кветачку зямлі Полацкай князёўну Рагнеду, пытаўся ў яе пра справы ў старажытным Полацку. І казала Рагнеда:

**— Людзі ў Полацку добрыя, шчырыя, працавітыя. Але жыццё ў іх нялёгкае. Не чуваць вясёлых беларускіх песень, як раней. Дзяўчаты нашы прыгожыя ды хлопцы нашы моцныя слухаюць песні замежныя, незразумелыя, заморскія...**

Кожны знаны госць браў слова перад грамадою.

*Мусіць, стар я ўжо стаў,*
*бо не чую мовы нашай*
*дзіўнай беларускай,*
*не бачу ў руках моладзі*
*кніг беларускіх — скарбніц*
*мудрасці народнай.*
*Але ж... Каб не мова,*
*даўно б мы растаялі,*
*Расплыліся б імглой*
*між чужых*
*Збеглі ў вырай*
*гусінаю стаяю...*

Гэтак прамаўляў Францішак Скарына. А следам — Кастусь Каліноўскі:

*Вось і судзіў нам лёс нанова*
*Пытанне кінуць у хаўрус:*
*"Чаго вам хочацца,*
*панове?*
*Які вас выклікаў прымус?"*
*Народ ён быў і ёсць і будзе!*
*Таму спакойна, дзецюкі!*
*Не згіне мова наша*
*ў блудзе!*
*Яна нам светач на вякі!*
*Я ведаю,*
*цяжкімі будуць годы,*
*А нам стаяць, не гнуцца,*
*як трысцё,*
*Бо лёс славян*
*і лёс майго народа —*
*Нялёгкае і гордае жыццё.*

І — Януш Радзівіл:

*Нас знішчыць? До дурніц.*
*Замала сілы.*
*Зямля, дзе ўсе жывуць*
*адной сям'ёй,*
*Дзе ваяваў Вячко,*
*дзе жыў Вашчыла, —*
*Не можа быць пахілаю*
*рабой.*
*Не вырвеш з нас жывую*
*нашу душу,*
*Бы з дзяснаў слабых*
*набалелы зуб,*
*Бо мы народ вялікі,*
*непарушны,*
*Народ, што да зямлі*
*прырос, як дуб.*

І вітаў народ дарагіх гасцей, і гуляў і гульбаваў у гэты радасны дзень... Пірагамі частаваў, прыгожыя мілагучныя песні спяваў, на сваю будучыню варажыў...

**Міхась ЦЫБУЛЬСКІ**

*На здымках: так святкавалася ў "Вытоках".*

*Фота В. РАПЕЦКАГА*
*Віцебск*

ПОШТА

# У зладжанасці больш моцы

Святыя айцы сцвярджаюць, што адступленне ад царквы ў народзе пачынаецца з парушэння пастоў, і, калі парушаюцца ўстаноўленыя пасты, то папускаюцца і вялікія спакушэнні. Новы год па грыгарыянскім календары для хрышчоных у Праваслаўі з кожным годам усё інтэнсіўней ператвараецца ў сатанінскую пастку. Амаль паўсюдна ў калектывах тусуюцца ці то на вечарынескладчыны ў межах усёй установы, ці то ў аддзелах, групоўках. Мала хто з супрацоўнікаў выяўляе мудрую незалежнасць, мужнасць характару ці стойкасць у Веры, каб адарвацца ад калектыўнай звычкі перадсвяточнага п'янства. Бывае і так, што адарвацца — значыць ускладніць узаемаадносіны, нашкодзіць сабе, табою могуць пагарджаць, спадцішка насміхацца, а то і здзекліва паскудзіць — у спітым народзе зашмат нізкіх пачуццяў. Таму найчасцей салідарна ўсім гуртам прыкладваюцца да д'яблавага зелля, разыходзячыся потым у добрым падпітку хто куды. Сямейныя прывязванні ў гэтым выпадку хістаюцца, ці часам наогул знікаюць.

Падзенне здэградаванага чалавека ўсё больш відавочнае, высіленне розуму ўсё больш адчувальнае, неразборлівасць у сродках прыкра ўражвае. Безумоўна, не ўсё так змрочна: вакол кожнага з нас ёсць станоўчыя прыклады разумнага ладу жыцця, ёсць добрая моладзь, прыгожа выхаваная, уцаркоўленая. Яны міласэрныя, без пазёрства і штучнасці, адкрытыя, шчырыя, менш заняты сабой — болей блізкімі, не кураць, не п'юць наогул спіртнога, разумеюць, што праз устрыманне такое атрымаюць ад Госпада ўзнагароду вялікую, у тым ліку быць бацькамі паўнавартых дзяцей.

На жаль, такіх горстка ў нашым грамадстве, затое ў значнай ступені, пры папусціцельстве Бога за грахі кожнага мае месца падпарадкаванне злой сіле. Навокал безліч трагедый, якіх, пэўна ж, удалося б пазбегнуць, каб болей было пакаяння, звяртання да Бога, меней жорсткасці, здрады, гардыні. "Сатана мой друг", — крэкча, смокчучы цыгарэту, у навагодняй кампаніі размаляваных спакусніц, "галак намазаных", як называў іх святы ўгоднiча Божы бацюшка Серафім Сароўскі, п'яны мужык, які пры хрышчэнні абвяшчаў, што ад сатаны адракаецца. Як жа млосна, пакутліва яго кволай душачцы, якая пакуль што бездапаможна трапечацца, па трапнаму выразу Паўла Фларэнскага, як голуб у дымаходзе, а цьмяны розум не ў стане ўцяміць, на якое гібенне ён выракае яе пасля сваёй смерці.

Бог-Гасподзь, знячэўку з'явіўшыся, будзе судзіць сваім праведным судом усіх нас, жывых і мёртвых. Дзякуй Богу, яшчэ ёсць нейкі час (хоць і мізэрны, мяркуючы па прадказаннях), каб выкарабкацца кожнаму са сваёй грахоўнай ямы, як жывёліне з лужы, атрэсціся ад свайго грахоўнага бруду, каб потым трымаць сябе ў акрэсленых Госпадам праз запаветы рамках чалавечай прыстойнасці. "Немагчыма не прыйсці спакусам, але гора таму, цераз каго яны прыходзяць" (Лукі, 17, 1). У сувязі з гэтым напрошваецца экскурс у 1582 год, з якога пачаўся адлік часу па грыгарыянскім календары, у 1918 — год дзяржаўнага ўвядзення яго ў СССР, у 1923 — калі патрыярх Ціхан пад націскам апазіцыі адмовіўся ад свайго рашэння прымаць новы каляндар Праваслаўнай царквой. Несумненна, наспеў час выпраўляць становішча, каб ліквідаваць шкодны разлад, быць у адзіным страі дысцыплінаваных Хрыстовых воінаў, яшчэ раз высветліць важкасць тых прыкмет-прычын процістаяння, ці паглядзець на праблему з другога боку.

У той час, як многія ківаюць на архаічнасць Праваслаўя, праваслаўныя вёрнікі расчувальваюцца зыходу па малітвах Праваслаўнага Патрыярха Благадатнага Агню да Гроба Гасподня напярэдадні Пасхі па ст. стылі; з'яўленню аблокаў на заўсёдным чыстым жнівеньскім бясхмарным небе на гары Фавор у час свята Прэабражэння Гасподня (таксама толькі па с. ст.). Апошнім часам усё часцей можна пачуць аб сціскванні часу, аб большай дакладнасці юліянскага календара, аб тым, што варожым спакушэннем было прыняцце грыгарыянскага, што снег і мароз на Пасху заклікае да сур'ёзнага роздуму. Ці не пачынаць размову на карысць юліянскага і вяртанні да яго? Будзем жа прасіць дапамогі ў Госпада аб радыкальным змяненні сітуацыі, аб канчатковым вырашэнні ўсіх супярэчнасцей каляндарных тэрмінаў (у тым ліку і ў вызначэнні Пасхі). Невыпадкова на некаторых мастах не дазваляюць строю, шарэнзе крочыць "у нагу" — у зладжанасці больш зарад сілы, энергіі. Ці ж непатрэбна чалавецтву моц, сіла, энергія для пераадольвання зла? Ці ж могуць быць угоднымі Госпаду разлад, архаічная прыхільнасць меншасці, калі ўсё гэта ўзмацняе грэхападзенне нашых нямоглых братоў і сясцёр? Якая ў гэтым выпадку мера нашай любові да бліжніх?

**Ларыса РАБЦЭВІЧ-БРАНАВІЦКАЯ**

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2848-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2848-525, 2847-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2848-204
пісьмаў і грамадскай думкі — 2847-985
літаратурнага жыцця — 2848-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2847-985
паэзіі і прозы — 2848-204
музыкі — 2848-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2848-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2848-462
навін — 2848-462
мастацкага афармлення — 2848-204
фотакарэспандэнт — 2848-462
бухгалтэрыя — 2366-071



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3652
Нумар падпісаны ў друк 5.11.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 6468/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12